

# БАЙРАМ

Часопіс Беларускага грамадскага згуртавання татар "Зікр уль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь

---

**2001 ВЫПУСК 41**

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

выпуск № 41

ЧАСОПІС
БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАР "ЗІКР уль–КІТАБ"
І МУСУЛЬМАНСКАГА
РЭЛІГІЙНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Ў РЭСПУЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Мінск, 2001

БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ. / Часопіс Беларускага грамадскага згуртавання татар "Зікр уль–Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, вып. № 41 – Мн., 2001, – 80 стар., наклад – 200 асобнікаў.

Часопіс "Байрам" – выходзіць з 1991 года. У їм змяшчаецца інфармацыя аб жыцці і дзейнасці мусульманскіх абшчын на Беларусі, аб асновах Іслама і правах мусульман, гісторыі і культуры беларускіх татар, важнейшых падзеях у мусульманскіх краінах. Разлічаны на татар, мусульман Беларусі, навукоўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, мусульманскай рэлігіяй беларускіх татар. Выдаецца на правах унутранай дакументацыі Згуртавання татар "Зікр уль–Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь.

| | |
|---|---|
| Адказны за выпуск | **Ібрагім Канапацкі** |
| Рэдактары | **Ісмаіл Александровіч,**<br>**Разалія Александровіч,**<br>**Яўген Гучок,**<br>**Дзмітры Чымбаевіч,**<br>**Таццяна Якубоўская** |
| Набор | **Дзмітры Чымбаевіч** |

بسم الله الرّحمن الرّحيم

## "БАЙРАМУ" – ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ

У красавіку 2001 г. споўнілася 10 гадоў, як пачаў выходзіць ў свет "Байрам" – першы ў гісторыі Беларусі часопіс татарскага грамадска-культурнага аб'яднання "АЛЬ-КІТАБ". З нагоды такога юбілею ад імя рэдакцыі часопіса віншую ўсіх чытачоў, аўтараў і фундатараў, без вашай прыхільнасці і падтрымкі было б немагчыма ажыццяўленне выпуску 40 нумароў гэтага выдання.

Задуманы як квартальнік, гэты часопіс на працягу 10 гадоў у вельмі няпростых варунках намагаўся вытрымліваць рэгламент выдання, але часам прыходзілася аб'ядноўваць два нумары. Вы трымаеце ў руках такі выпуск пад № 41. Аб сучасных праблемах, у асноўным фінансавых, звязаных з выданнем "БАЙРАМУ", які выходзіць цяпер як квртальнік Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага грамадскага згуртавання татар "ЗІКР УЛЬ КІТАБ", ужо пісалася (*"Байрам", выпуск 1–2, 2000 г.)*. Думаецца, каб часопіс уваходзіў у дзяржаўны план выданняў і на яго праводзілася падпіска, то былі бы сабраны пэўныя сродкі. Але наўрад ці хапіла б іх на ўтрыманне прафесійнай рэдакцыі, не малы ў такім выпадку тыраж, ды на аплату паслуг пошты. Гэты варыянт ужо пралічваўся і на сягодняшні дзень застаецца неверагодным. Таму будучыня нашага выдання па-ранейшаму залежыць ад добраахвотных ахвяраванняў прыватных асоб або дабрачынных арганізацый. Не выключана, што замест квартальніка задасца выдаваць толькі штогоднік.

Таксама пісалася ўжо спадаром М. Маліноўскім (*"Байрам", выпуск 3–4, 2000 г.)* аб стваральніках часопіса і людзях, што аднымі з першых падтрымалі яго, дасылалі і публікавалі свае артыкулы, спрыялі вырашэнню тэхнічных праблем у сувязі з друкаваннем тыражу. Яшчэ раз нізкі паклон усім ім!

Адзначаючы юбілей "БАЙРАМУ" больш хочацца гаварыць аб здзяйсненнях і набытках, аб вялікай station ролі, што адыграў квартальнік у справе нацыянальнага, культурнага і рэлігійнага адраджэння татар-мусульман на Беларусі, даследаванні імі сваёй гісторыі ў беларуска-літоўска-польскай супольнасці, сваёй гістарычнай лучнасці з беларускім народам.

Нагадаю, якія задачы выдання і звязаныя з ім спадзяванні былі акрэслены ў прадмове да першага нумара часопіса, што выйшаў пад назвай "Байрам. Татары на зямлі Беларусі". *"Пра што*

*будзем пісаць? Пра гісторыю і падзеі, да якіх дачыніліся беларускія татары, пра асновы Ісламу, пра даследчыкаў гісторыі і культуры татараў, пра заняткі і рамёствы, пра жыццё татараў у Татарстане, пра крымскіх, сібірскіх, астраханскіх, пра родных і блізкіх нам літоўскіх і польскіх татараў. Мяркуем друкаваць слоўнік казанскататарскіх і крымскататарскіх найбольш ужывальных слоў і выразаў. Некалькі старонак адводзім на артыкулы пра татарскую кухню, пра нацыянальныя песні і танцы.*

*У нашай ініцыятыўнай групы пакуль няма прафесійнага журналіста, таму просім прабачэння ў чытачоў за магчымыя хібы. Збіраемся надрукаваць у другім нумары дасланыя вамі матэрыялы, спадзяёмся, што новыя татарскія сілы і нашы зычліўцы-беларусы дапамогуць нам у выдавецкай справе, што наш квартальнік стане цікавым і патрэбным выданнем."*

З гонарам можна адзначыць, што ўсе пастаўленыя задачы часопісам сёння вырашаны, а спадзяванні спраўдзіліся. Больш таго, цягам часу праблематыка публікацый пашырылася, з'явіліся новыя сталыя рубрыкі, на старонках часопіса ўбачылі свет выдатныя арыгінальныя даследаванні, упершыню былі апублікаваны шматлікія архіўныя матэрыялы аб шляхецкіх татарскіх родах і выбітных дзеячах, рэпрэсіраваных у часы сталінскага генацыду, і шмат, шмат іншага.

Грунтоўны аналіз усяго, што і як задалося ажыццявіць рэдактарскай групе і даволі шматлікаму аўтарскаму калектыву квартальніка "Байрам", рабіў неаднаразова прафесар Леанід Лыч, напрыклад у № 1 за 1999 г. Нават у нумары, што трымае шаноўны чытач у руках, ёсць колькі слоў пра наш часопіс у артыкуле Л. Лыча, "У духу сваіх прашчураў" да 80-годдзя Сцяпана Александровіча. У рамках прадмовы немагчыма нават абазначыць шматвектарнасць уздзеяння часопіса "Байрам" на развіццё татарскай супольнасці ў Беларусі, іншых нацыянальных меншасцяў і, канечне, нацыянальна свядомай часткі беларускага народа. Мы проста пагартаем некаторыя выпускі і яшчэ раз угледзімся ў некаторыя публікацыі.

Адкрыем наўздагад любы нумар квартальніка, напрыклад, сціплы паводле афармлення №1, 1994. Зацікаўлены і ўважлівы чытач знойдзе ў ім звесткі аб важнейшых падзеях у свеце, Беларусі і яе татарскай супольнасці і нават асобных сем'яў. Як і ў кожным квартальніку, пачынаючы з № 1, надаецца важнае значэнне рэлігійнаму асветніцтву – змешчаны суры з КУР'АНА на беларускай мове ў перакладзе Я. Гучка, паказана паслядоўнасць нійетаў з Хамаіла і даюцца іх тэксты арабскімі і беларускімі літарамі. Асвятляюцца таксама малавядомыя старонкі гісторыі, як "Удзел татараўмусульман у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі", даследаваны І. Канапацкім, або "Гісторыя дзяржавы Ідэль Урал" Г. Ісхакі. Пра гвалтоўную дэпартацыю крымскіх татар у траўні 1944 да 50-годдзя гэтай жудаснай падзеі распавядае ахвяра гэтага злачынства І. Меметаў і тут жа выказванні беларускага інтэлігента пра гэтую антычалавечую акцыю савецкага рэжыму. Пастаянны чытач знаходзіць у гэтым нумары і матэрыялы з ужо

стаўшых звыклымі рубрык: "Беларуска-крымскататарскі слоўнік", "Слоўнік энцыклапедычнага даведніка."Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" і "Пробныя артыкулы да энцыклапедычнага даведніка...". Усе 116 старонак гэтага выпуска на роднай для беларускіх татар беларускай мове!

Ці возьмем больш дасканалы, кампьютарнага набору і дызайну, адрэдагаваны і выданы прафесіяналамі "БАЙРАМ" № 1 за 1998 г. Такі ж уважлівы падыход знаходзім і тут да рэлігіі і мусульманскай маралі, якім прысвечаны і матэрыялы прадмовы рэдактара, і матэрыялы з КУР'АНУ, і "Рытуальныя азкары-напаміны і малітвы Пасланніка", і пра адвяржэнне ў Ісламе алкаголю – "Маці злачынстваў" *(паводле І. Галявєтдзіна)*. Пачуцці смутку і жаху выклікаюць новыя архіўныя дакументы і фотаздымкі пра лёс варшаўскага імама Алі Вaraновіча, загінуўшага у Гулагу. Прыцягваюць увагу біяграфічныя нататкі прафесара А. Каўкі пра нашага земляка, славутага гісторыка і археографа М. Улашчыка, артыкул пра беларусазнаўства, падборка некалькіх пробных артыкулаў пра пчол і бортніцтва для будучай энцыклапедыі для беларускіх татараў і інш. Асаблівае захапленне і ўдзячнасць аўтарам выклікаюць публікацыя пра твор М. Лермантава "Боярин Орша" і пададзеная ў выдатным перакладзе на беларускую мову "Песня про Сокола" *("Пра Сокала і Вужа")* М. Горкага. Сюжэт першага звязаны з трагічным лёсам маладога татарына, а ў аснову песні пра Сокала пакладзена крымскататарская легенда, аб чым большасць з нас не здагадвалася. Абодвы творы сведчаць аб велічы духу народу, у асяроддзі якога нараджаюцца героі, а памяць аб іх захоўваецца ў дзіўных паданнях. Гэты нумар "Байраму" *(выпуск 1 за 1998 г.)* быў апошні, складзены з удзелам яго першага рэдактара Якуба Якубоўскага. Карэктуру гэтага выпуска ён прачытаў за 2 тыдні да смерці. Ён бы вельмі парадаваўся разам з намі, што квартальнік выходзіць да гэтага часу, і пажадаў бы яму вялікага плёну на ніве служэння свайму народу ў другім дзесяцігоддзі. І выказаў бы шчырую ўдзячнасць стваральнікам кожнага нумару, перш-наперш адказнаму за кожны выпуск, фактычна, рэдактару "Байрама" Ібрагіму Канапацкаму, паважанаму Ісмаілу Александровічу, руплівым валанцёрам Разаліі Александровіч і Яўгену Гучку, а таксама групе тэхнічнага забеспячэння ў складзе Дзімы Чымбаевіча і Таццяны Хасяневіч.

**Таццяна Якубоўская**



وَإِذْ قَالَ مُوسَىٰ لِقَوْمِهِ اِ۟ذْكُرُواْ نِعْمَةَ اَللَّهِ عَلَيْكُمُۥٓ
إِذْ أَنجَىٰكُم مِّنَ ءَالِ فِرْعَوْنَ يَسُومُونَكُمْ سُوٓءَ اَلْعَذَابِ
وَيُذَبِّحُونَ أَبْنَآءَكُمْ وَيَسْتَحْيُونَ نِسَآءَكُمْ وَفِے ذَٰلِكُم
بَلَآءٌ مِّن رَّبِّكُمْ عَظِيمٌ ۝٨ وَإِذْ تَأَذَّنَ رَبُّكُمْ لَئِن شَكَرْتُمْ
لَأَزِيدَنَّكُمْ وَلَئِن كَفَرْتُمُۥٓ إِنَّ عَذَابِے لَشَدِيدٌ ۝٩ وَقَالَ مُوسَىٰٓ
إِن تَكْفُرُواْ أَنتُمْ وَمَن فِے اِ۬لْأَرْضِ جَمِيعاً فَإِنَّ اَللَّهَ لَغَنِيٌّ حَمِيدٌ ۝١٠
أَلَمْ يَأْتِكُمْ نَبَؤُاْ اُ۬لَّذِينَ مِن قَبْلِكُمْ قَوْمِ نُوحٍ وَعَادٍ
وَثَمُودَ ۝١١ وَالَّذِينَ مِنۢ بَعْدِهِمْ لَا يَعْلَمُهُمُۥٓ إِلَّا اَللَّهُ جَآءَتْهُمْ
رُسُلُهُم بِالْبَيِّنَٰتِ فَرَدُّوٓاْ أَيْدِيَهُمْ فِے أَفْوَٰهِهِمْ
وَقَالُوٓاْ إِنَّا كَفَرْنَا بِمَآ أُرْسِلْتُم بِهِۦ وَإِنَّا لَفِے شَكٍّ مِّمَّا
تَدْعُونَنَآ إِلَيْهِ مُرِيبٍ ۝١٢ * قَالَتْ رُسُلُهُمُۥٓ أَفِے اِ۬للَّهِ شَكٌّ
فَاطِرِ اِ۬لسَّمَٰوَٰتِ وَالْأَرْضِ يَدْعُوكُمْ لِيَغْفِرَ لَكُم
مِّن ذُنُوبِكُمْ وَيُؤَخِّرَكُمُۥٓ إِلَىٰٓ أَجَلٍ مُّسَمًّى قَالُوٓاْ إِنْ
أَنتُمُۥٓ إِلَّا بَشَرٌ مِّثْلُنَا تُرِيدُونَ أَن تَصُدُّونَا عَمَّا
كَانَ يَعْبُدُ ءَابَآؤُنَا فَأْتُونَا بِسُلْطَٰنٍ مُّبِينٍ ۝١٣

قَالَتْ رُسُلُهُمْ

# КУР'АН

## Сура чатырнаццатая — Ібрагім

***У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!***

**1 (1).** Аліф лям ра. Пісанне – Мы паслалі яго табе, каб ты вывеў людзей з цемры да святла з дазволу іх Госпада на шляху вялікага, пахваленага –

**2 (2).** Аллага, якому належыць тое, што ў нябёсах і што на зямлі. Гора ж няверным ад кары пякельнай,

**3 (3).** якія любяць жыццё зямное больш за апошняе і адхіляюцца ад шляху Аллага, імкнучыся да крывізны ў ім! Гэтыя – у далёкім змане.

**4 (4).** Мы адпраўлялі пасланнікаў толькі з мовай іх народа, каб яны тлумачылі ім. Аллаг зводзіць з дарогі, каго пажадае, і вядзе, каго пажадае. Ён вялікі, мудры.

**5 (5).** Мы паслалі Мусу з нашымі знаменнямі: «Выведзі народ твой з цемры да святла і нагадай ім пра дні Аллага. Сапраўды, у гэтым знак для кожнага цярплівага, прыстойнага!»

**6 (6).** Вось сказаў Муса свайму народу: *«Узгадайце міласць Аллага вам, калі Ён выратаваў вас ад рода Фір'ауна! Яны ўскладаюць на вас злоснае пакаранне, забіваюць вашых сыноў, пакідаюць у жывых вашых жанчын. У гэтым выпрабаванне для вас ад Госпада вашага вялікае».*

**7 (7).** Вось абвясціў Гасподзь: *«Калі аддзячыце, Я памножу вам; а калі будзеце няўдзячнымі... Сапраўды, пакаранне Маё – моцнае!»*

**8 (8).** І сказаў Муса: *«Калі будзеце няўдзячнымі вы і тыя, хто на зямлі – усе, то сапраўды Аллаг – багаты, слаўны.*

**9 (9).** *Хіба не дайшла да вас вестка пра тых, хто быў раней да вас, аб народзе Нуха, 'Ада, Самуда*

**10.** *і тых, якія былі пасля іх, – не ведае іх ніхто, акрамя Аллага. Да іх прыйшлі нашыя пасланцы з яснымі знаменнямі, а яны ўклалі рукі ў вусны свае і сказалі: «Мы не верым у тое, з чым вы пасланы; мы ў сумніве моцным аб тым, да чаго вы заклікаеце».*

**11 (10).** Сказалі іх пасланнікі: *«Хіба аб Аллагу сумніў, Творцу нябёс і зямлі? Ён кліча вас, каб дараваць вам грахі і адтэрміноўваць да вызначанага часу.*

**12.** Яны сказалі: *«Вы – толькі людзі, такія, як мы, вы жадаеце адвярнуць нас ад таго, чаму пакланяліся нашыя бацькі. Прывядзіце ж нам яўную ўладу!»*

**13 (11).** Сказалі ім іхнія пасланцы: *«Мы толькі людзі, такія ж, як і вы, але Аллаг спрыяе таму са Сваіх рабоў, каму пажадае; мы не можам прывесці вам улады,*

**14.** *інакш як з дазволу Аллага. На Аллага няхай спадзяюцца вернікі!*

**15 (12).** *І чаму ж нам не спадзявацца на Аллага, калі Ён павёў нас па нашым шляхам? Мы будзем цярпець тое, чым вы нас крыўдуеце. І на Аллага няхай спадзяюцца тыя, што давяраюць!»*

**16 (13).** І сказалі тыя, што не ўверавалі, іх пасланнікам: *«Мы вынішчым вас з нашай зямлі, калі вы будзеце звяртацца да нашай абшчыны».* І адкрыў ім іх Гасподзь: *«Мы абавязкова загубім няправедных*

**17 (14).** *і паселім вас на зямлі пасля іх. Гэта — для тых, хто баіцца стаяння перада Мною і баіцца Маёй пагрозы!»*

**18 (15).** Яны прасілі рашэння, але не атрымалі поспеху ўсе тыраны ўпартыя.

**19 (16).** Ззаду яго — пекла, і будуць паіць яго вадой гнойнай.

**20 (17).** Ён хлебча яе, але як толькі праглынае, і прыходзіць да яго з усіх месцаў смерць, але ён не мёртвы, а ззаду яго — суровая кара.

**21 (18).** Прытча пра тых, хто не веруе: дзеянні іх — як попел, узмацніўся над імі віхор у бурны дзень; яны не ўладны ні над чым, што прыдбалі. Гэта — далёкая аблуда!

**22 (19).** Хіба ты не бачыў, што Аллаг стварыў і нябёсы папраўдзе; калі Ён пажадае, то павыводзіць вас і прывядзе новае стварэнне,

**23 (20).** і гэта для Аллага — невялікае.

**24 (21).** І паўстануць усе перад Аллагам, і скажуць слабыя тым, што ўзнесліся: *«Мы трымаліся вас. Хіба вы пазбавіце нас ад чаго-небудзь з пакарання Аллага?»*

**25.** Яны сказалі: *«Калі б Аллаг нас вёў, то і мы б вас вялі. Нам усероўна, альбо мы будзем засмучаны альбо пацерпім — няма нам выйсця».*

**26 (22).** І сказаў сатана, калі справа была вырашана: *«Аллаг жа абяцаў вам абяцанне праўды, абяцаў і я, але я падмануў вас, і не было ў мяне над вамі ўлады.*

**27.** *Я толькі клікаў вас, і вы адказалі мне, не ганьбіце ж мяне, а ганьбіце саміх сябе. Я не дапамагаю вам, і вы не дапаможаце мне; я адракаюся ад таго, што вы мяне зрабілі саўдзельнікам раней». Сапраўды, для тыранаў — кара пякельная!*

**28 (23).** *І ўведзены будуць тыя, якія ўверавалі і тварылі добрае, у сады, дзе ўнізе цякуць рэкі, — для вечнага знаходжання там з дазволу свайго Госпада. Прывітанне іх там: «Мір!»*



# ГЭТАЙ СВЯТЫНІ БЕЛАРУСКІХ ТАТАР НЕ АДНО СТАГОДДЗЕ

*«Хто пабудуе мячэць у імя Аллаха памерам нават як гняздо птушкі, таму Аллах пабудуе дом у раі».* Так абвяшчае хадзіс прарока нашага Мухаммада *(мір яму і міласць Усявышняга!)*.

Здаўна продкі беларускіх татар сяліліся на беларускай зямлі, служылі ў ёй, жылі ў сяброўстве і згодзе з беларусамі. Беларуская зямля станавілася для іх і апошнім прытулкам. Аб гэтым сведчыць старадаўні татарскі мізар *(могілкі)* на ўзгорку ля вёскі Лоўчыцы паблізу Навагрудка. Могілкі параслі старымі дрэвамі, сярод якіх знаходзіліся рэшткі старой мячэці.

Побач з вёскай, у паўночна-заходнім напрамку, праходзіць дарога на Усялюб. Крыху на захад – дарога на Ліду. Такім чынам, вёска размяшчаецца паміж двума значнымі гандлёвымі шляхамі.

Летапісы і старажытныя акты, у тым ліку і акты пра літоўскіх татар, не даносяць да нас падрабязных звестак пра ўзнікненне і гісторыю Лоўчыц. Спаслацца тут, бадай, можна на даследаванні С. Крычынскага, які ў сваю чаргу, спасылаючыся на паданні, паведамляе, што мусульманскі прыход у Лоўчыцах заснаваны ў 1420 г. Можна меркаваць па наяўнасці мячэці, што прыход быў значны. Да таго ж у гэтым рэгіёне на той час *(XV ст.)* акрамя Лоўчыцкай, была і мячэць у Некрашунцах пад Лідай. Згодна з паведамленнямі С. Крычынскага і прыведзенай ім храналогіі прыходаў і мячэцяў Беларусі вынікае, што ў наваколлі Ліды і Навагрудка скláліся найбольш старажытныя асады татар у нашай краіне, і мячэць у Лоўчыцах належыць да найбольш старажытных ва ўсёй Усходняй Еўропе. Статыстычныя даведнікі XIX–XX ст.ст. паведамляюць нам аб імамах Лоўчыцкай мячэці. Апошнім імамам Лоўчыцкай мячэці быў Ях'я Александровіч, яго намеснікам – муэдзінам Ісмаіл Асановіч.

У канцы XIX – пачатку XX ст.ст. у Лоўчыцах налічвалася 12 двароў і каля сотні жыхароў. На працягу XIX – пачатку XX ст.ст. тут дзейнічаў мусульманскі прыход, была мячэць. У міжваеннай Польшчы яна была ўнесена ў збор помнікаў, якія ахоўваліся дзяржавай. У пасляваенныя гады ўлады Навагрудка забаранілі татарам рамантаваць мячэць, а затым і зусім яе зачынілі. Будынак мячэці знаходзіўся ў паўразбураным стане: абваліліся купал і дах, згніла падлога. У 1990 г. Міністэрства культуры БССР выдаткавала сродкі на падрыхтоўку праекта рэстаўрацыі Лоўчыцкай мячэці. Але далей справа не пайшла.

Мячэць у Лоўчыцах, якая стаіць на дзеючым татарскім мізары, з'яўляецца свяшчэнным месцам для ўсіх татар-мусульман Беларусі. Тым больш, што несумненную гістарычную каштоўнасць маюць татарскія магілы, дзе пахаваны выдатныя татарскія дзеячы: генералы М. Туган-Бараноўскі, А. Палтаржыцкі, удзельнікі вызваленчых паўстанняў 1794, 1830, 1863 гг.



Адраджэнне Лоўчыцкай мячэці, 1999-2001 гг.



Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў РБ і Беларускае згуртаванне татар-мусульман «Аль-Кітаб» неаднаразова звярталіся да ўсіх мусульман, да ўсіх людзей добрай волі з заклікам узяць удзел у адбудаванні мячэці. Аб гэтым гаварылася ў адозве муфтэята і праўлення згуртавання «Аль-Кітаб» да сваіх супляменнікаў: *«Толькі мы, мусульмане, не можам быць пасіўнымі, павінны збіраць самі сродкі на будаўніцтва,* — сказана ў адозве. *Нашы памерлыя продкі, іх душы адчуюць палёгку, што яшчэ не згінула ў душах мусульман вера ў Аллаha. Нашы нашчадкі, перш за ўсё дзеці, унукі і праўнукі парадуюцца, што іх бацькі, дзеды і прадзеды таксама ўдзельнічаюць у адбудове Лоўчыцкай мячэці. Памятайце, што да кожнага чалавека прыйдзе часіна, калі чалавеку ўжо не трэба ніякіх матэрыяльных каштоўнасцяў, калі чалавек падводзіць вынікі: а што добрае я зрабіў у сваім жыцці? Кожны можа зрабіць хоць што-небудзь карыснае, хоць бы даць свой запрацаваны грош у адбудову Лоўчыцкай мячэці».* І гэта сапраўды так.

Вашы ахвяраванні, добрыя людзі, грамадзяне нашай краіны незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, дасылайце, калі ласка, на рахунак 3015211640017 у АКБ Белбізнесбанка, г. Мінск, код 739; валютны рахунак № 3015201735017 у АКБ Белбізнесбанка, г. Мінска, код 764 з адзнакай «на адбудову Лоўчыцкай мячэці».

З чэрвеня 1999 года вядуцца работы па рэканструкцыі мячэці. Ужо шмат зроблена. Але яшчэ трэба прыкласці намаганні, каб давесці да канца справу адбудовы Лоўчыцкай мячэці. Доўгі час сярод пэўнай катэгорыі татар вяліся спрэчкі, а ці трэба адбудоўваць мячэць, нават ставілася пад сумненне мэтазгоднасць будаўніцтва мячэці. І мы вельмі задаволены, што большасць нашых людзей падтрымалі нас словам і сродкамі. Асаблівую ўдзячнасць мы прыносім дабрачыннаму фонду «Res Publica Multiethnica», яго кіраўніку, шаноўнаму пану Яцэку Гутоўскаму, які ўнёс значны ўклад у фінансаванне праекта адбудовы мячэці. Вялікі дзякуй татарам-мусульманам Іўя і Навагрудка, якія не засталіся абыякавымі да вялікай і пачэснай справы. Ніжэй мы прыводзім спіс фундатараў Лоўчыцкай мячэці

**1999–2000 гг.**:

**Пожертвования в $:**

Полторжицкая Аминя *(50$)*, Полторжицкая Фатима *(10$)*, Сверблевский Алик (Польша) *(10$)*, Миськевич Алик *(Польша) (10$)*, Полторжицкая Соня *(30$)*, Якубовский Яхья *(81$)*, Якубовский Абу-Бекир *(40$)*, Ризванович Соня *(5$)*, Абрамович *(Польша) (20$)*, Якубовская Таня *(5$)*, Миськевич Эля *(Польша) (26$)*, Шагидевич Борис *(10$)*, Лебедь Иосиф *(10$)*, Мурзич Алей *(10$)*, Смайкевич Александр *(10$)*, Лебедь Исмаил Мустафович *(15$)*, мусульманин из Ивья *(20$)*, мусульманская община Ивья *(950$)*, Якубовская Таня *(5$)*, Весновская Зоня *(10$)*, Лебедь Шарифа *(5$)*, Лебедь Лима *(20$)*, Полторжицкая Галина *(10$)*, Щенснович Соня (20$), Щенснович Матвей (20$),

Радкевич Галя (5$), Шагидевич Ибрагим *(Ошмяны) (10$)*, Щенснович Бекир *(100$)*, Александрович Аминя *(20$)*;

**Пожертвования в рублях:**

Щенснович Соня *(1000 руб)*, Якубовский Алик *(1000 руб)*, Ризванович Мария *(10000 руб)*, Богданович Ева *(10000 руб)*, Шагидевич Алей *(20000 руб)*, Шуцкий Александр *(5000 руб)*, Якубовский Бекир *(10000 руб)*, Корицкая Мерьема *(10000 руб)*, Шагидевич Роза *(10000 руб)*, Щенснович Алеша *(10000 руб)*, Богданович Роза *(10000 руб)*, Лебедь Яхья *(10000 руб)*, Миськевич Галина Бекировна *(10000 руб)*, Смайкевич Айша *(10000 руб)*, Богданович Роман *(10000 руб)*, Шагидевич Ева *(10000 руб)*, Александрович Иосиф *(10000 руб)*, Милькаманович Ева *(4000 руб)*, Рафалович Яхья *(10000 руб)*, Смольская Налина *(10000 руб)*, Богданович Анна Брониславовна *(10000 руб)*, Полторжицкая Аминя *(10000 руб)*, Тельман и Райхана *(Гродно) (10000 руб)*, Щенснович Роза *(10000 руб)*, Сафаревич Ева *(5000 руб)*, Радкевич Аня *(5000 руб)*, Полторжицкий Якуб *(10000 руб)*, Щенснович Яхья *(5000 руб)*, Щенснович Мустафа *(5000 руб)*, Щенснович Алей *(5000 руб)*, Радкевич Мария *(10000 руб)*, Богданович Мария *(10000 руб)*, Шагидевич Александр *(10000 руб)*, Шагидевич Аня *(10000 руб)*, Александрович Александр *(10000 руб)*, Тулишева Ханифа *(10000 руб)*, Щенснович Ася *(10000 руб)*, Рафалович Борис *(20000 руб)*, Асанович Роза *(10000 руб)*, Александрович Фатима *(10000 руб)*, собрано в мечети 27 декабря 2000 г. *(23000 руб)*, Курбанов Гусейн *(75000 руб)*, Ивьевские мусульмане *(325000 руб)*.

**2001 г.:**

Мусульмане г. Лида:

Крыницкий Адам Мустафович *(20$)*, Криницкий Рустем Адамович *(15$)*, Полтаржицкая Лилия Матвеевна *(10000 руб)*, Семенова Роза Якубовна *(10000 руб)*, Карпович Гульзада *(5000 руб)*, Крыницкий Матвей Степанович *(50$)*, Александрович Александр *(20$)*, Смольская Лилия Сулеймановна *(25$)*.

Мусульмане г. Новогрудка:

Смольский Мустафа *(10000 руб)*, Хасеневич Захар *(10000 руб)*, Казакевич Мустафа *(10000 руб)*, Майсейчик Софья *(10000 руб)*, Александрович Яков *(20000 руб)*, Лебедь Александр *(15$)*, Дешук Марина *(5000 руб)*.

Смайкевич-Мурман Джемиля *(г. Гданьск)* – 24.07.2001 и 7.09. 2001 – 10 и 20 DM

Няхай жа Міласцівы і Міласэрны Аллаг аддзячыць Вас усіх за высакародную справу ў імя Яго!

Мы спадзяемся, што Ваша дапамога ў адбудове Лоўчыцкай мячэці паслужыць добрым прыкладам для астатніх мусульман Беларусі.

Мір Вам і міласць Аллага Усявышняга!

Ассаляму алейкум уа рахматуллаг!

**І. Александровіч, І. Канапацкі, А. Шагідэвіч**



# МУСУЛЬМАНСКАЯ БЕЛАРУСЬ

Татары пачалі зьяўляцца ў нашым краі ў XIV ст. – на запрашэньне вялікіх князёў або трапіўшы ў палон. Гэтая разнамасьцевая маса імігрантаў, у асноўным выяроў рознага этнічнага паходжаньня, цалкам захавала толькі сваю веру і зьвязаныя зь ёй абрады. А вось культуру і мову амаль што страціла. Да таго ж, жаніцца прыбылыя татары мусілі зь беларускамі, бо сваіх кабет ня мелі, праз што згубілі адметнае аблічча.

Трэба адзначыць розьніцу паміж нашымі й казанскімі татарамі *(якія яшчэ гадоў сто таму зваліся булгарамі)*. Нашым шмат бліжэйшыя крымскія татары, хаця й нельга сьцьвярджаць, што гэта адзіны народ. На нашу думку, больш слушна акрэсьліць беларускіх татараў як рэлігійную, а не этнічную групу ў складзе беларускай нацыі.

Як кажа аўтар "Рысале-і-Татар-і-Ляг" *(паведамленьне пра становішча татараў у Рэчы Паспалітай, складзенае для турэцкага султана ў 1557–1558 гг.)*, іх на той час было дзьвесьце тысячаў, аднак больш праўдзівымі выглядаюць зьвесткі польскага дасьледніка Дзядулевіча. Ён лічыў, што у XV ст. татараў было 10, у XVI – 30, у пачатку XVII ст. – 40, а пры канцы стагодзьдзя *(пасьля вайны з Масковіяй)* – ізноў толькі 10 тысячаў. Аўтар "Рысале" піша, што мовы сваёй яны збольшага ня ведалі, актыўна ёй не карысталіся, а паслугоўваліся тутэйшай гаворкай.

Для набажэнства татары карысталіся арабскай і турэцкай мовамі, але, каб тлумачыць сэнс арабскіх і турэцкіх тэкстаў, перакладалі іх на беларускую. Апроч таго, паўстала вялізнае мноства мясцовай літаратуры, якая хоць і мела, у асноўным, рэлігійную скіраванасьць, але не пакідала па-за ўвагай і сьвецкае жыцьцё.

Татары прынесьлі ў беларускую культуру сваё пісьмо – "аліф". Яго называюць "арабскім", аднак створанае яно хутчэй на пэрсыдзка-цюркскай аснове, пра што сьведчыць наяўнасьць у пэрсыдзкім і беларускім аліфах літараў "п", "ж", "ч", якіх няма ў сапраўднай арабскай абэцэдзе. Наагул, наш аліф розьніцца ад пэрсыдзкае абэцэды толькі наяўнасьцю літараў "дзаль" і "цад" і адсутнасьцю літары "гаф". Цяжка сказаць, якая цюркская абэцэда найбольш паўплывала на фармаваньне аліфу, больш-менш поўнай адпаведнасьці ні з адной з разгледжаных намі абэцэдаў цюркскіх народаў на

арабскай аснове *(сёньня амаль усе цюрскія народы маюць пісьмовасьць на аснове лацінскага альфабэту)* ня знойдзена, хаця відавочнае запазычаньне адтуль спосабу пазначэньня мяккасьці зычных *("к", "т" і г.д.)*. Сыстэма пісьма беларускіх мусульманаў прыдатная для выкарыстаньня ня менш за кірыліцу ці лацінку – у гэтым мы пераканаліся, папрасіўшы іранскіх сяброў прачытаць тэксты, пісаныя беларускім аліфам – нягледзячы на акцэнт, мы свабодна разумелі чытанае.

За некалькі стагодзьдзяў мусульмане стварылі вялізны аб'ём беларускамоўнае літаратуры. Яна падзяляецца на Кітабы, Хамаілы, Тапсіры й Тэджвіды.

Кітаб – кніга вялікага аб'ёму *(часам за тысячу старонак)*, разнастайнага жанру й зьместу. Хамаіл – нешта кшталту малітоўніка, значна меншы па аб'ёме. У Кітабах пануюць беларуская і польская мовы, а ў Хамаілах – арабская й старатурэцкая. Да першай усясьветнай вайны Хамаіл быў у кожнай татарскай сям'і *(у кнізе «Литовско-польские татары: наследники Золотой Орды», выдадзенай у 1994 г. у Казані, апавядаецца такі факт: на палёх аднаго з Хамаілаў нейкі афіцэр, паўстанец 1794 г., запісаў, што падчас абароны перадмесьцяў Варшавы загінула шмат афіцэраў-татараў)*. Тапсіры зьмяшчаюць тэксты Кур'ану з падрадковым перакладам на беларускую ці польскую мову і тлумачэньнямі. Тэджвіды – выклады правілаў чытаньня Кур'ану, пісаныя яны па-старатурэцку з падрадковым перакладам на беларускую ці польскую.

XIX ст. было апошнім векам беларускае ісламскае кнігі. Беларускія малны *(мулы)* трымаліся народнае мовы, несьлі слова Бога й прарока Божага па-беларуску дый стварылі цэлую бібліятэку тэалягічнае літаратуры на беларускай мове.

На жаль, дасёньня нашыя навукоўцы не займаліся гэтымі кнігамі сур'ёзна. Вывучэньне літаратуры беларускіх мусульманаў пачалося з працы А. Мухлінскага "Изследованіе о происхожденіи и состояніи литовских татаръ" *(СПб, 1857)*, дзе ён падаў узоры тэкстаў з трансьлітарацыяй на кірыліцу. Кніжка прайшла амаль незаўважанай – напрыклад, Я. Карскі скарыстаў са зьмешчанага ў ёй матэрыялу толькі ў 1922 г. Пасьля вывучэньнем Кітабаў займаліся Я. Станкевіч, А. Шлюбскі, В. Вольскі да вайны і А. Антановіч пасьля вайны, які выдаў самую грунтоўную на сёньня працу па гэтым пытаньні – "Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом" *(Вільня, 1968)*. *(Менавіта ён, прааналізаваўшы 23 кніжкі XVII–XX ст., прыйшоў да высновы, што польскамоўныя Кітабы, відаць, былі перакладзеныя не з усходніх моваў, а зь беларускай.)* У 21-й кнізе "Запісаў" Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтваў у Нью-Ёрку была надрукаваная нізка тэкстаў, падрыхтаваных Г. Александровіч-Мішкенене, а ў 1995 г. С. Шупа і Г. Александровіч-Мішкенене выдалі беларуска-турэцкі размоўнік 1836 г.

Цяжка вызначыць, зь якіх моваў беларускія татары перакладалі свае кнігі. Калі зірнуць у надрукаваныя ў "Запісах Беларускага

Інстытуту Навукі і Мастацтва" *(1994, том 21)* тэксты, мы ўбачым — "зь языка фарсійскага і турэцкага". Адкрыем узоры тэкстаў, пададзеныя ў кніжцы Мухлінскага, — і ўбачым там згадку пра "Мухаммада, Пана Арабскага й Пэрскага". Таму нельга казаць, што гэтыя тэксты перакладаліся выключна зь цюркскіх моваў, хаця сапраўды ў Кітабах часта-густа і спатыкаюцца турэцка-беларускія слоўнікі.

Многія навукоўцы ў працах пра беларускіх татараў выяўляюць сваю некампэтэнтнасьць. Як, напрыклад, у артыкуле У. Сьвяжынскага "Цюркскія і арабскія мовы ў моўнай сытуацыі Вялікага Княства Літоўскага" *(надрукаваны ў зборніку матэрыялаў II міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі "Ісламская культура татараў-мусульманаў Беларусі, Летувы і Польшчы і яе ўзаемадзеяньне зь беларускай і іншымі культурамі", Менск, 1996)* — *"для перадачы спэцыфічна беларускіх гукаў беларускія татары... дапоўнілі арабскае пісьмо дзьвюма неабходнымі літарамі".* Тады як у арабскай абэцэдзе 28 літараў. Калі дадаць яшчэ 2, будзе 30. Але ў альфабэце беларускіх мусульманаў 33 літары *(альбо "харфы")*, пра што ён сам ніжэй і піша. Пра іншыя матэрыялы гэтых зборнікаў і такое літаратуры часам проста няма чаго й сказаць: пабачыш назвы артыкулаў — і адразу разумееш, што яны ненавуковыя. Напрыклад, "Аб структуры Божага імя" *(з графікамі і табліцамі)*. Дарэмна шукаць вычарпальную інфармацыю пра Кітабы і ў Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі — нічога, акрамя агульных фразаў, там няма. Бібліяграфія да дадзенага артыкулу складаецца ўсяго з 9 крыніцаў, зь якіх 7 прыпадае на 20-я гады і толькі дзьве — на наш час *(прычым адна зь іх — польская)*. Прыходзіцца часам сумнявацца і ў тым, што аўтар чытаў тыя кніжкі, пра якія піша, — скажам, легенду пра ўзьнясеньне Мухаммада на неба В. Несьцяровіч называе паэмай, хоць твор гэты ніяк пад азначэньне паэмы не падпадае.

Літаратуру беларускіх мусульманаў моцна панішчылі войны мінулага стагодзьдзя. Са Сьмілавічаў, кажуць, у 60—70-я мяхамі вывозілі кнігі, многія зь якіх у 90-х сплылі ў Савудаўскую Арабію й Кувэйт. Ёсьць падставы меркаваць, што існаваў беларускі пераклад усёй Сьвятой Кнігі Кур'ану. Ён да гэтага часу ня знойдзены, але хто ж яго шукаў...

Матэрыялы падрыхтавалі **Сяргей Богдан і Вячаслаў Гушча**

За дапамогу ў пошуках дзякуй сп. І. Канапацкаму
і доктару М.А. Галамінежаду з унівэрсытэту Машгаду *(Іран)*
*(Газета «Наша Ніва», 2 траўня 2001 г.)*



# АЛІФ

## *(Трэцяя беларуская абэцэда)*

Дасёньня абэцэда беларускіх мусульманаў друкавалася толькі тройчы ў выданьнях зь мізэрнымі накладамі – А. Антановічам у кніжцы "Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом" *(500 асобнікаў)*, 21-й кніжцы "Запісаў" Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтваў у Нью-Ёрку *(1994)* і "Беларуска-турэцкім размоўніку" *(Нью-Ёрк, 1995)*.

Расчытаны намі Кітаб, які мы тутака прапануем Вашай увазе, гэткую абэцэду называе "аліфам", а яе знакі – "харфамі": "У аліфе 28 харфаў" *(дадатковыя знакі для беларускай мовы аўтар Кітабу ня ўлічвае)*. Чаму "аліф"? Гэтак называецца першая літара арабскае абэцэды, а паходзіць гэтае слова ад назвы першае літары фінікійскага альфабэту – "алеф".

Ад яе паходзіць і назва першае літары грэцкага альфабэту, "альфа", дый само слова "альфабэт".

Мы прапануем надалей называць такі від беларускага пісьма «аліфам». Называць яго "арабіцай" неабгрунтавана, бо ён досыць значна адрозьніваецца ад абэцэды арабскае мовы.

Мы мелі сьмеласьць даць назвы некаторым літарам аліфу, якім дасьледчыкі дагэтуль не далі пэўнае назвы. Пры гэтым пільнаваліся звычайнай лёгікі *(калі ёсьць літары "сад" і "зад", дык чаму не назваць падобную да іх літару, што пазначае гук "ц", літарай "цад"? Або да шэрагу літараў "даль", "заль" дадаць літару "дзаль")*, а таксама пазычылі колькі назваў з пэрсыдзкае абэцэды дзеля яе зручнасьці і большага, чым у арабскай, падабенства зь беларускай мовай *(датычыць літараў "ха з кропкай", "ваў", "гай-га-ваз")*. *Для* агаласовак – знакаў, што пазначаюць галосныя гукі, прыдуманыя новыя назвы, адпаведныя іх выгляду.

Убачыць практычнае прымяненьне аліфу вы можаце на пададзеным ніжэй тэксьце, які адпавядае аднаму з тэкстаў, друкаваных у кірылічным варыянце. Будуць пытаньні і прапановы – пішэце. Калі хто хоча навучыцца – вось колькі парадаў.

Пісьмо йдзе зьлева направа, зьверху ўніз. Пісаць амаль усе літары трэба разам, зважаючы на тое, што большасьць літараў у розных пазыцыях мае розныя формы. Вялікіх і малых літараў няма. Для нашай мовы, у адрозьненьне ад сэміцкіх моваў, у якіх аснова слова перадаецца зычнымі, а галосныя досыць няўстойлівыя, характэрная зафіксаванасьць і вызначанасьць галосных гукаў, а таму на пісьме беларускія мусульмане шырока выкарыстоўвалі для іх пазначэньня надрадковыя і падрадковыя знакі агаласовак. Трэба сказаць пра абсалютную неўпарадкаванасьць артаграфіі аліфнага пісьма – перапісчыкі пісалі так, як ім здавалася, што тое слова гучыць. Таму шукаць заканамернасьцяў у тагачасным аліфным правапісе – справа марная.

У беларускім аліфе ёсьць некалькі "з", "т", "с", "х", што ёсьць спадчынай арабскай мовы, дзе гэтыя літары пазначалі розныя гукі.

У беларускай мове гэта тыя самыя гукі, хаця ў розных мусульманскіх беларускіх кнігах выкарыстоўваюцца розныя варыянты іх пазначэньня і сталая артаграфія адсутнічае. Як будзеце пісаць, трымайцеся нейкага аднаго варыянту. Калі гэтае пісьмо крыху распаўсюдзіцца, тады й выберам адзіны для ўсіх варыянт. Зважайце толькі на мяккасьць і цьвёрдасьць, бо ў аліфе, напрыклад, для мяккага і цьвёрдага "к" існуюць розныя літары.

Некаму нашая спроба ўпарадкаваньня аліфу падасца рэанімацыяй трупа. Аднак, нават калі ніхто і ня будзе ім пісаць, гэтая справа ўсё адно можа прынесьці карысьць, упарадкаваўшы напісаньне словаў ды імёнаў, што прыйшлі да нас з моваў, якія карыстаюцца арабска-пэрсідзкай графікай, у кірылічным і лацінкавым варыянце беларускае мовы. Тады ня будзе ваганьняў, пісаць Хусэйн ці Гусэйн, бо, згодна правілаў аліфу, першая літара – "ха", а не "гай-гаваз", і чытаецца яна як "х" – а значыць, і пісаць трэба толькі Хусэйн (*і нельга называць іранскага паэта Хафіза Гафізам, бо яго імя таксама пішацца праз "ха"*). А вось слова "джыгад", што сёньня пішуць як "джыхад", мае пісацца праз "г", бо ў аліфе пішацца праз "гай-гаваз". Гэтаксама маем пісаць Аллаг (*хаця, дарэчы, гэтае імя Бога выкарыстоўваецца толькі ў арабскамоўнай частцы Кітабаў і ніколі ў беларускай*). Таксама гэта дапамагло б і ў адназначным прачытаньні геаграфічных назваў. У расейцаў і ў эўрапейскіх народаў няма традыцыяў пісьма арабскімі літарамі, таму і даводзіцца ім прыдумляць розныя сыстэмы трансьлітарацыі. Але ж мы маем свой аліф, адпаведна і няма чаго нам вычварацца.

Каліграфія да артыкулу
выкананая навучэнкаю Мэдінстытуту **Насібэ Галамінежад,**
за што ёй вялікі дзякуй.
*(Газета «Наша Ніва», 2 траўня 2001 г.)*



## КІТАБ ХАСЯНЕВІЧА

*У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ёсьць колькі мікрафільмаў беларуска-татарскіх тэкстаў, напісаных аліфам, – тры Кітабы 1832–40 гг. і Тапсір канца XVIII ст. Адтуль і ўзятыя прапанаваны вашай увазе тэкст Кітабу, пісанага ў Сьмілавічах муллой Ібрагімам Хасяневічам (прашчурам сёньняшняга галавы Аб'яднаньня татараў Беларусі Ібрагіма Канапацкага) за месяц рамазан 1832 г. (існуіньнік кнігі належыць прыватнай асобе). Пра дату напісаньня сьведчыць надпіс па-расейску, па-польску і па-татарску (то бок беларускімі словамі, напісанымі аліфнымі літарамі) пры канцы кнігі.*

*Паколькі гэты Кітаб пісаўся найперш для асабістага ўжытку набожным чалавекам і сьвятаром (як свайго роду канспэкт прынцыпаў жыцьця і веры), а не для чытаньня іншымі людзьмі, паколькі пісаньне насіла характар рэлігійнага, а не вытворчага ці гістарыяграфічнага акту, аўтар не заўжды пасьлядоўны ў тым, што піша. Часам Хасяневіч, запісаўшы палову нейкае прыпавесьці, згадвае, што забыўся сказаць нешта важнае на пачатку тэксту, дый зноў тады пачынае расповед наноў (гэтым вызначаецца, напрыклад, тэкст пра карчмарку, у якім мы выпраўлялі такія відавочныя парушэньні лёгікі апавяданьня). Для публікацыі ў газэце мы апусьцілі нязначныя кавалкі тэкстаў, цьмяныя паводле свайго зьместу, і далі загалоўкі ягоным часткам. Трэба зазначыць і тое, што аўтар часам не разумеў сэнсу асобных словаў і выразаў на арабскай і турэцкай мовах, якія ведаў на слых. Тым ня менш, у арабскіх тэкстах памылак амаль няма. Пераклад цытатаў з Кур'ану зроблены намі з арабшчыны, мы пільна зважалі на Тапсір (багаслоўскае тлумачэньне) Сьвятой Кнігі, карыстаючы з дапамогі праф. Галамінежада.*

*Некалькі аналягічных па сюжэце тэкстаў былі надрукаваныя раней сп.м. Александровіч-Мішкінене, але большасьць зь іх ніколі не друкавалася ні ў якіх варыянтах.*

*Аўтар Кітабу пісаў словы так, як яны, на ягоную думку, гучалі б, — так і зьявіліся словы накшталт "прафда" (праўда), "юкі" (уюкі) — што можа быць і вынікам моды на пальшчызну. Тое, што ў некаторых сказах побач сустракаюцца дзеясловы з фіналямі як "-л-", так і "-ў-" ("прышоў і мовіл") можна тлумачыць тым, што "кніжны" фіналь "ал" (пад уплывам царкоўнаславяншчыны) звычайна прымае дзеяслоў з "узьнёслым, урачыстым" значэньнем (мовіл), а "аў" маюць больш "прыземленыя, абыдзённыя" (учыніў), якіх няма ў царкоўнаславянскай мове. Мабыць, той, хто пісаў гэтую кнігу, у нейкай ступені валодаў польскай і царкоўнаславянскай мовамі, бо раз-пораз зьбіваўся на іх (зьмяняючы граматычныя формы ці ўжываючы паасобныя палянізмы, накшталт "авоц"). Сын Ібрагіма Хасяневіча Якуб таксама стварыў два Кітабы, мікрафільмы якіх таксама захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы. Якубавы Кітабы напісаныя нашмат болей палянізаванай мовай.*

## Пра карчмарку

Быў адзін Абід, багамолец ненаўчоны. Ішоў да мячэці. Міма карчмы дарога была. Карчмарка сваю чалядку выслала, казала таго Абіда ў свой дом узваць. Скора той Абід увашоў. Зараз дзьверы замкнула, а ў той карчмаркі адно дзіця было. Карчмарка мовіла: *"Эй, Абід, ня выпушчу цябе, калі ты адзін куфаль гарэлкі ня вып'еш,*

*або зы мною добраю волю ня ўчыніш, або дзіця не забʼеш. Межы тых трох рэчаў адну што ня ўчыніш, то цябе ня выпушчу, гвалт крыкну, скажу:*

*"Гэты Абід мяне гвалціць".*

Абід, тыя слова чуўшы, пачаў мысьліць: блуд учыніць трудна да мячэці *(страшма, перш чым ісьці ў мячэць)* і ці дзіця ў нявіннасьці забіць *(страшна)*, альбо *(дык лепш ужо)* адзін куфаль гарэлкі выпіць і пайці ад яе. Як выпіў адзін куфаль гарэлкі – упіўся, потым *(выпіў)* і другі – п'яны стаў, і з шынкаркай блуд учыніў, і дзіця забіў.

З тых прычын, карчма – шайтанскі дом нячысты, усім грахам галава. Эй, мусульмане, слухайце, не чыніце тых грахоў, помніце на судны дзень, што маем памерці. Ведайце жа, сьмерць жаднага не адпусьціць, ад няе ўцяканьня нет.

## Сьвіньня і ліхі чалавек

Мусульманін мовіць: *"Хвалю Богу, што мяне Пан Бог мусульманінам стварыў, а ня жыдам"*. Жыд мовіць: *"Хвалю Богу, што мяне жыдам стварыў, а не кафірынам"* *(немусульманінам)*. Кафірын мовіць: *"Хвалю Богу, што мяне Бог кафірынам стварыў, а не сабакам"*. Сабака мовіць: *"Хвалю Богу, што мяне Бог сабакам стварыў, а не сьвіньнёй"*. Сьвіньня мовіць: *"Хвалю Богу, што мяне Бог сьвіньнёй стварыў, а не ліхім чалавекам"*.

## Ці сьпіць Пан Бог

У Кітабу Шуруту Салавату *(кніга патрабаваньняў да "правільнага" намазу – малітвы)* піша:

"Муса-прарок у Пана Бога пытаў: *"Пане Божа, ці сьпіш ты"*.

Пан Бог рэк *(казаў)*: *"Муса-прарок. Прынясі мне два шкляніцы, поўныя вады"*.

Наліўшы, Муса прынёс, поўныя вады наліўшы.

Пан Бог рэк: *"Муса, азьмі (вазьмі) ў абедве рукі"*.

Муса ўзяў.

Пан Бог рэк: *"Трымай моцна"*.

Пан Бог на яго сон прыпусьціў. Муса заснуў. Шкляніцы з рук выпусьціў – *(яны)* пабіліся, вада разьлілася. Пан Бог рэк: *"Муса, што чыніш? Чаму шкляніцы пабіў, з рук выпусьціў, ваду разьліў?"*.

Муса рэк: *"Пане Божа, зграшыў"*.

Пан Бог рэк: *"Муса заснуў і шкоду зрабіў. Калі б Пан Бог заснуў, зямля і неба з усіткім напалненьнем з моцы з рук маіх выпала б, іж (якая) была б шкода. С тым прыкладам, мне, Богу, нельга спаць на вякі вякоў"*.

## Пра век Божы

Муса-прарок у Пана Бога пытаў: *"Пане Божа, хачу чаго пытаць, але ня смею".*

Пан Бог рэк: *"Пытай, табе пазволена зы мною, Богам, мовіць".*

Муса рэк: *"Пане Божа, як ты дайно Богам? Як дайно справуеш Боствам (як дайно ты бог)?"* Пан Бог рэк: *"Муса, вялікай рэчы пытаеш. Казаў бы цябе таго часу срога (люта) скараць, агнём спаліць, ніжлі (бо) ласку божу і гнеў правышаеш, ажэ (але ж панолькі) пазволіл табе з сабою гаварыць — прабачам то цябе".*

Муса спалохаўся, паў на зямлю тварам, ад памяці адышоў.

Пан Бог рэк: *"Муса, устань, адкажу табе на пытаньне твае".* І рэк: *"Як бажэнствам справую дайно, ведай, яшчэ да стварэньня зямлі, і неба, і ангелаў, стварыў сто семсот тысячаў месцаў. Кожнае места так высока, як ад зямлі да неба. Места і вежы насыпаў зярнятамі, малымі, як мак або гарчыца, і стварыў аднаго птаха зялёнага, катораму птаху казаў на кожны дзень па аднаму зярняту браць і есьць, і той птах водлуг (паводле) расказанага (загаду) майго Божага па аднаму зярняту браў і еў. Так век той птах быў і з'еў тыя зярняты з усіх мест і веж, усе выбраў, ні аднаго нё засталося зярнята. Потым птах той умёр. Так кольку тысячаў крат год прайшло, самы лічбы акро(м) мяне, Бога, ніхто ня ведае, ня можа зрахаваць (зьлічыць).*

*Потым у тых местах стварыў людзей сем крат сто тысяч, з тых людзей (адзін) зграшыў, (грэх) учыніў. За той грэх сро(га) гневам абрушыўся. Тыя места і вежы паламаліся, патаўкліся, за ніц (на ніштo) пашлі з волі маёй Божай, і людзі паўміралі. Потым у семдзесят год стварыў зямлю, і неба, і ангелаў, потым Адама прарока. Отож, Муса, як Пан Бог дайно есьць, ніхто таго не пытаў, бо таго ведаць ніхто ня можа. Еднак трэба пытацісь і ведаць, што быць можа. (Далей рэзкі пераход сюжэту.)*

*Есьць дом адзін Божы, і маем Бэйт-уль-Мокаддыс (сьвяты горад, да якога зьвернута малітва, тут маецца на ўвазе Ерусалім), каторы дом спачатку сьвету быў. (Сэнс, відаць, такі: Ёсьць горад Ерусалім, і гэты горад ад пачатку сьвету быў.) Пан Бог яго асьвяціў і ўвялічыў, і ўзяў яго на чвортае неба моцю сваёю Божаю праз ангелы (з дапамогай анёлаў). Цяпер у тым доме Божым Іса-прарок мешкае... (Далей ідуць тры незразумелыя паводле сэнсу радкі, што нагадваюць урыўкі разважаньняў.)*

## Пра вала і Давыдаў суд

Давід-прарок, у яго голас харошы быў. Як бывала, Кнігу Забур *(кніга прарока Давіда)* чытае – тагды да яго птахі, з вады усялякія стварэньня, на кожны дзень мужоў, жанок, дзевак зьбіраліся чатыры тысячы, слухалі.

Аднаго дня бэны ісраэлі жыдоўскага народу *(г.зн. жыды)* прышлі і мовілі: *"Скажы нам а суднам дню. Якая справа мае быць, аб'яў нам".*

Давід мовіл: *"Я вам на Байрам (сьвята ахвяраваньня ў месяцы зоўль-хаджы (штогод зьмяшчаецца на 11 дзён)) буду казаць".*

Калі яны забраліся на Байрам, Давід-прарок сеў на мунбару *(адмысловае ўзвышэньне, на якое ўздымаецца мална, каб прамаўляць да вернікаў).*

А межы ісраэлямі быў адзін багаты вельмі; што есьць на сьвеце, усе меў — скарбу, перла, злата многа меў. Вала меў вельмі харошага, людзі мовілі, хто бы таго вала ўдарыў, то яго самога будзе біць, а калі б хто забіў, то яго самога заб'е, хто яго відзіў, ніхто не чапаў.

У том месьце адна жонка-ўдава была і сына аднаго мела. Абое дзень *(і)* ноч Бога прасілі. Хата іх у Бэйт-уль-Мокаддысу была. У той хаце майстат быў. Водла майстату *(тут — запавет, спадчына)* адно дзерава было, называлі нар *("гранат" ад пэрс. "anar").* На кожны дзень *(на дрэве выспявалі)* па дзьве авоцы (плады). Адзін авоц матка ела, а другі сын еў. За тое Богу хвалу чынілі.

Сын мовіл да маткі: *"Эй, матка. Покі будзім (жыць) у Бэйт-уль-Мокаддысу, толька на дзень па ягадцэ, па адной маем пажытку".*

*(Яна)* Мовіла: *"Гэты авоц пажываючы, Богу хвалу чынім, калі б нам (каб) Бог гэтага пажытку не адабраў".*

Калі ўсталі рана — на дзераве нічога нет.

Матка мовіла: *"Відзіш, Богу хвалу не чыніў — Бог міласьцівы, і той пажытак адняў. Сягоньня галодны засталіся".*

Тры дні і тры ночы галодныя былі.

Сын мовіл: *"Эй, матка, прасі Бога, штоб нам даў халальны рызк (хлеб надзённы, атрыманы халальна, г.зн. без парушэньняў законаў шарыяту) дал".* Матка да'оі *(малітвы)* пела, сын амінь казаў. Таго ж часу таго багатага вол да хаты іх прышол і мовіл: *"Эй, Загідова (жаночае імя), я ваш пажытак. Зарэшце (зарэжце) мяне".* Сын узяў нож, зарэзаў вала, мяса ў скуру ўвярнуўшы, схавалі. Колька разоў варыўшы, елі — яшчэ горай галодныя сталі.

Таго багатага колька дней вала шукаюць, не найдуць. У іх хаце не пыталі. Адна старая жонка старая прышла да іх, на дзьвярах кроў бачыла і ў хату увашла, тое мяса відзела. Матка мовіла: *"Сын, нашто зарэзаў, лепей было (з) чыстым жыватом богу кланяціся".*

Цяпер у страху тая старая баба пашла і таму багатаму сказала. Той багаты называўся раіс *("начальнік, галоўны", пасада, блізкая па сваім значэньні да старосты),* прышоў зь людзьмі, і тую Загідку і сына, б'ючы, да Давіда прыгналі.

Давід пытаў: *"Вала для чаго зарэзаў?"*

Яны мовілі: *"З Божай моцы вол языком мовіл: "Я ваш рызк. Зарэшча (зарэжце) мяне і ежце". Я для таго зарэзаў".*

Раіс мовіл: *"Вол? Як? Мей гаварыць? Лжыце! (хлусіце)"*

Давід мовіл з Божага расказу: *"Божа мовіць, — потым Давід мовіл. — Эй, раісу, тысячу залатых азьмі, заплаці (сабе за крыўду)"*. Раіс не хацеў.

Давід мовіл: *"Скуру, поўную золата насыплю, азьмі"*. Раіс не хацел: *"Давід, як воля Божа, так чыні"*.

Давід-прарок мовіл той Загідцэ:

*"Ку прафдзе прыйдзі"*. Тая Загідка мовіла: *"У той хаце колька дней галодныя былі, і з таго дзерава нічога не радзіла, і з голиду нічога не маглі чыніць. У Бога халальнага рызку прасілі. Гэты вол да дзьвярэй прышоў і мовіл: "Я ваш халальны пажытак"*.

*"Як яны самі зазналі, —* раіс зарадаваўся, мовіл. *— Самі на сябе вызналі нам (прызналіся)"*. У том часе Джабраіл да Давіда (*прышоў*) і мовіл: *"Ад Пана Бога расказане (загад) тое, што (б) ты людзям на Байрам забраціся (сабрацца) казаў, няхай збяруцца. Таго часу раісу вырак учыніш". Давід людзям казаў забраціся.*

Як забраліся на Байрам, Давід сеў на майстаце, колька айятаў із Забуру чытаў, усе слухалі.

Джабраіл мовіл да прарока Давіда (*пра раіса*). *(Давід пераказвае расказанае Джабраілам) "Раісу мой, чы ведаеш, як із Шаму (Сірыі) да Масіру (Эгіпту) ехаў на цьвічэньне адзін купец мажны. Ехаў, пяцьсот вярблюдаў юкі (уюкі, груз) несьлі — срэбра, золата. А ты яго із дарогі зьвёў і забіў, у зямлю ўкапаў, скарб яго ўзяўшы, да Масіру пашоў. Потым за сорак дней да Шомы прышоў, да бэны ісраэляў, і багатым стаў; а гэтая Загідка і сын — то таго забітага жана, а то сын яго".*

Раіс запіраіцца: *"Ня знаю, ня ведаю. Я тое ніколі не чыніў і скарбаў ніякіх ня браў".*

З волі Божай таго раіса рукі гаварылі (*пачалі гаварыць*): *«Мы забілі»*. Ногі мовілі: *«Мы хадзілі»*. Усе суставы азнаймовілі-гаварылі, а язык анямеў, галаву зьвесіў.

Потым Давід мовіл: *"І людзі, што ў мяне пыталі а судным дню, отож відзіце, што праўдзівае, а што няпраўда — уся яўна будзе з волі Божай "аль-ёўм нахтэмо алё такаллімуна эйдыхім ва ташхаду арджольхехім бэ мокону яксібун" ("Сёньня запячатуюць вашы вусны, а гаварыць будуць рукі вашы, і будуць сьведчыць ногі вашы аб тым, што здабычу шукалі і што здабывалі" (сура 36 (Ясін), аят 65))*. Як у Кур'ане піша: на Судны дзень запічатуеш уста, а кажым мовіць рукам і нагам, што чынілі — усё высьвячаць.

Давід мовіл да Загідкі і сына яе:

*"Устань. Гэтаму раісу галаву затні (адсячы) з Божага расказаньня, а яго ўсе скарбы забяры, маёнтнасьць (маемасьць) і быдла — твой то хак (гэта кампэнсацыя табе)*.

Младзенец так учыніў, маёнтнасьць, скарбы, быдла забраў.

Джабраіл мовіл: *"Эй, Давід, з Божага расказу, маім халоп'ім (як загадаў Бог маім халопам), а маю ласку і даніну няхай*

*зайдзячна прымаюць, за пажыткі дзякуюць, за нэндзу няхай церпяць, я ім пажыткаў прыспору, а на том сьвеце рай ім дам. "Аллаху латіфу бі ібадыхі ярзаку ман яшау таммат" (" Міласьцівы Аллаг хлеб надзённы дае кожнаму, хто захоча. Канец" (Сура 42 (Шура'), аят 19))*.

Таму Кітабу канец.

## Пра Сулеймана

Сулейман, прарок, прасіў у Пана Бога, мовіл: *"Пане Божа, (твае) крулейства на ўсітак сьвет, хачу цябе прасіць, калі б пазволіў, усе стварэньні ў сябе на банкеце жэбы ў мяне былі, жэбы я іх усіх накарміў"*. Пан Бог рэк: *"Пазваляю, назнач сабе, а я раскажу, штоб таго дня ў цябе ўсе былі на абедзе, елі і пілі"*.

Потым Сулейман да Пана Бога мовіл: *"Вызначыл дзень, (калі) маюць быць"*.

Сулейман казаў *(загадаў)* вазіць *(пачастунак)* і з усіх панстваў, і зь мест, што маглі быць. Вялікім дастаткам вазілі і зямлёй і вадой колька месяцаў справажалі.

Сулейман пытаў у сваіх паноў-маршалкаў у старэйшых *(ці хопіць пачастунку на ўсіх)*. *"Старшына,* — мовілі, — *і крулю ня только на дзень, але на кілько дзесент дней можа быць, і сам, і дзейце ўсіткага сяла (і любым дзейкам хопіць)"*.

Калі тэн дзень прышол, Сулейман паехаў з войскам і зь людзьмі, казаў высокі палац збудаваць. Сеў на палацы, калі *(і ў гэты момант)* адна рыба морам прыплыла, пры берагу стала, мовіла да Сулеймана: *"Круле Сулеймане, дзе (быццам бы) сейсяго дня — мне Пан Бог казаў — (у) цябе ёсьць і піць, і есьці"*. Сулейман рэк: *"Отож маеш, еш і пей, што хочыш"*. Рыба выняла галаву з мора, разінула рот, палькнула ўсё разам едзена і піцьеў, што колька месяцаў гатаваў, і з усім начынам, з катламі, *(аж)* людзі-кухары ўцякалі. Тая рыба палькнула, што ён гатаваў для ўсяго стварэньня, што ёсьць на сьвеце, а яна разам *(за раз)* палькнула і мовіла: *"То мне адзін кус, а двух кусаў нет. Мне Бог каждага дня па тры кусы такія (дае), выходзіць, дай мне (яшчэ) два кусы такія"*.

Сулейман спалохаўся, ад памяці адышоў, паў на зямлю тварам. Потым іншыя стварэньня ўдыхана ўсе прышлі і Сулеймана есьці-піць прасілі. Не даў, бо не было, чаго даць. Той дзень усе галодныя былі і наракалі-праклінали Сулеймана. Пан Бог рэк: *"Устань"*.

Сулейман зграшыл прад Богам сабе няроўнай рэчы прасіць. Хто ўсялякія стварэньня стварыў, той іх і корміць. Потым Сулейман каяўся прад Панам Богам. Пан Бог яму адпусьціў.

*Расшыфравана паводле мікрафільма (11Рк438МТ9), што захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі*

*(Газета «Наша Ніва», 2 траўня 2001 г.)*



# КІТАБЫ ЯК КРЫНІЦА МАРАЛЬНА-ЭТЫЧНЫХ НОРМАЎ, АБО ЯШЧЭ РАЗ ПРА КІТАБ ХАСЯНЕВІЧА

*1. Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом у 17–19 стагоддзях, даўно і трывала ўвайшлі ў скарбніцу нацыянальнай культуры двух народаў — татарскага і беларускага. Доўгае, на працягу шасці вякоў, сумеснае пражыванне паспрыяла ўзаемнаму духоўнаму ўзбагачэнню. Сярод шматлікіх культурна-гістарычных здабыткаў і арыгінальная пісьменнасць — кітабы (кнігі), напісаныя па-беларуску дастасаванай арабскай графікай.*

*Беларусы выступілі ў ролі гаспадара, а шматлікія татарскія сем'і — у ролі госця. Госць аказаўся народам умелым ва ўсіх адносінах. Татарская конніца ўславілася яшчэ ў час Грунвальда (1410), ды так, што некаторыя тагачасныя еўрапейскія храністы паспяшаліся, каб апраўдаць паражэнне крыжакоў, у дзесяткі разоў перабольшыць колькасць баявых татарскіх дружын. А справа была ва ўменні, кемлівасці, храбрасці, вернасці.*

*Апошняя рыса — проста ўнікальная. На працягу ўсёй гісторыі пражывання на Беларусі татары былі і застаюцца вернымі яе абаронцамі. Узяць хоць бы іх паважлівыя адносіны да нацыянальнай беларускай культуры ўвогуле і да беларускай мовы ў прыватнасці. У асяроддзі татарскай інтэлігенцыі па-сапраўднаму жыве дух беларускасці. І гэта ёсць даніна сумеснаму пражыванню і супрацоўніцтву з беларусамі. Увогуле татары паказалі выдатны прыклад нацыянальнага супрацоўніцтва, ужыўчывасці з іншым народам. Ні разу і ні на адной старонцы кітабаў я не знайшоў нават намёку на крыўду на свой лёс. Татары і беларусы разам былі ва ўсіх выпрабаваннях і таму заслужылі шчырую пашану і любоў беларусаў.*

*Гісторыя супрацоўніцтва татараў і беларусаў цікавая і тым, што дала свету вядомых людзей татарскай нацыянальнасці, якія праявілі сябе на ніве беларушчыны. Можна ўспомніць тут пісьменніка, доктара філалогіі, прафесара Сцяпана Александровіча, паэта і навукоўца Андрэя Александровіча, музыказнаўцу Бякіра Смольскага, кампазітара Дзмітрыя Смольскага, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, выдатнага энцыклапедыста Якуба Якубоўскага і шмат каго іншых, хто несумненна ўзбагаціў беларускую культуру і гісторыю.*

*Якуба Якубоўскага мне даводзілася бачыць і чуць некалькі разоў. У 1985 годзе у адной віцебскай газеце я напісаў пра кітабы, іх паходжанне, пра пасяленне татар на Беларусі. Праз дзень пасля апублікавання пазваніў невядомы чалавек і сказаў, што ён татарын, з удзячнасцю прачытаў артыкул, бо яму гэта і знаёмае, і дарагое. Мы пазнаёміліся. Гэта быў Якуб Якубоўскі. Мяне ўразіла яго далікатнасць, інтэлігентнасць. Надзвычай дасведчаны чалавек,*

*ён умеў хораша сказаць пра ўсё і пра ўсіх. З сустрэчы я зрабіў вывад, што, відаць, ёсць і сваё, татарскае, выхаванне ў татарскіх сем'ях.*

*Другі прыклад. Ібрагіма Канапацкага, дацэнта Мінскага педуніверсітэта імя Максіма Танка, ведаю з 1980 г. Інтэлігентны, сяброўскі, шчыры чалавек. Руплівец на ніве адраджэння і зберажэння сваёй, татарскай, духоўнай спадчыны. Колькі сустракаюся з Ібрагімам, столькі цешуся яго чалавечай прыстойнасцю. Сапраўдны навуковец, бліскучы арганізатар, ён згуртаваў вакол сябе творчую татарскую і беларускую інтэлігенцыю. Нідзе і ні разу публічна, з трыбуны або на старонках друку не сказаў пра чалавека (апанента) кепска ці хоць бы ў нестаноўчым кантэксце (чым не прыклад для аўтараў, што пішуць па-беларуску?). Выхаванасць, прыстойнасць — гэта, безумоўна, ад выхавання ў сям'і.*

*Выхаванню ў сям'і маладога татарскага пакалення ўдзялялася заўсёды асаблівая ўвага. Мяркую пра гэта па тых шматлікіх старонках у кітабах, якія непасрэдна прысвячаюцца выхаванню маральна-этычных нормаў: як трэба сябе паводзіць дома і на людзях, як трэба шанаваць бацькоў, суседзяў, сірот, старых людзей, як трэба сустрэць госця, якія абавязкі ў мужа і ў жонкі, як ацэньваць, напрыклад, хцівасць, п'янства і г.д.*

*Ёсць такія матэрыялы і ў кітабе (1832 г.) Хасяневіча (пра гэты рукапіс ішла размова ў публікацыі "Кітаб Хасяневіча" у "НН" 2 траўня 2001 г., аўтары — С. Богдан, В. Гушча).*

*Ніжэй прыводзяцца ўрыўкі з маральна-этычных павучанняў. Але вось што цікава. Тэксты такой тэматычнай накіраванасці ёсць ва ўсіх кітабах — або ў выглядзе прамога павучання, або як біблейскія легенды ці прытчы. Гэта невыпадкова: яны складаюць аснову выхавання татарскай моладзі ў кожнай татарскай сям'і. Праз выхаванне і дзякуючы выхаванню татары змаглі застацца самабытным народам: сціплым, працавітым, спакойным, акуратным.*

*Не дзіва, што кітабы часта чыталіся ў татарскіх сем'ях. Гэта адносіцца і да кітаба Хасяневіча. І не ствараўся ён толькі для "асабістага ўжытку", каб іншыя не маглі чытаць, як сцвярджаюць С. Богдан і В. Гушча. Варта разгарнуць арыгінал, і тады ўбачыцца, што ніжні вугалок кожнай старонкі — чорны ад частага перагортвання аркушаў. Безумоўна, чытаўся кітаб і самім перапісчыкам. Але Абрагіму (Ібрагіму) Хасяневічу, мабыць, важней было, каб напісанае стала здабыткам яго блізкіх, яго суродзічаў. Бо навошта ж увогуле пішуцца кнігі?*

*Прапаную ўвазе чытачоў транслітараваныя з элементамі фанетычнай транскрыпцыі (г.зн. запісаныя іншым алфавітам, тут — беларускім, з улікам вымаўлення) з кітаба Хасяневіча маральна-этычныя прыповесці (слова — з кітаба), якія складаюць педагагічную філасофію татар. Разам з тым максімальна захоўваецца каларыт тагачаснай мовы.*

## Як Пан Бог кажа шанаваць суседаў, гасцей, падарожных, старых людзей

* Із суседамі бліскімі і крэўнымі, із суседамі бліска мешкайучы *(жывучы)*... шануй і паважай і ні ў чом йіх не гневі. Калі майіш страву, а суседу пах зайдзе, або йего у дом свой прасі, або йему пашлі, безь йего не йеж. Йак мувіл Джэбраіл *(архангел Гаўрыіл)*, велмі суседней удзечнасьці перэсьцерэгай, суседа шануй, хоць бы быў кяфірын *(немусульманін)*...

* Хто клене суседа, йак бы кляў прарока. Хто клене прарока, йак бы кляў Пана Бога... Хто клене Бога, то над нім кледба *(праклянцце)* божэйа і анел(ь)ска.

* І *(адпавядае бел. слову ай)*, сыне, падарожнаму будзь рад, госьцю у даму свайом рад будзь, йего, відзечы, шануй. Хто бы меў у даму свайом госьця рад відзіць, шановаў, Пан Бог таковых л(ю)дзей у райі у ласцэ бежэй свайей рад йім будзе... Шануй госця, хоць бы быў кяфірын.

* Муві Пан Бог: старога кожнаго шануй і паважай, у л(я)тах старых не засмучай, старых, барадатых, каторыйе прыстойна, статачна старасьць свайу правадзець. Пан Бог муві: устыдайусе йіх казаць мувіць мучыць, бо ў йіх барадах йаснасьць майа божэйе.

## Пра ўзаемаадносіны паміж людзьмі і дзень пятнічны

* Калі мусюл(ь)манін другому мусюл(ь)маніну селам дасьць *(прывітанне словамі ассаламу элейкюм "мір вам")*, йако бы усім мусюл(ь)манам даў селам — такойе спасенне набудзе.

* Хто бы у п(я)тніцу трох чалавекаў частаваў, йако бы ад усходу да заходу усіх л(ю)дзей частаваў.

* Калі у п(я)тніцу у каго спытаў, йак майешся, йако бы усіх л(ю)дзей а здароўйу пытаў.

## Пра сямейныя адносіны

* Калі жана *(на)* мужа л(ю)бечы гледзіць, йако бы намазь... пела *(малілася)*.

* Хто бы на свайу жану л(ю)бечы гл(я)нуў, Пан Бог йему дваццаць спасенйе дасьць *(...)*

* На чужыйе жоны гледзець — атрута йест, шэйтанськайе страла. Йак Іся *(Ісус)* мувіл: не гледзіце на чужыйе жоны, калі б не пажадалі. Калі пажадайеш, то ўжо ісцудзоложыш *(здзейсніш пралюбадзейства)*, не ты сам, але сэрцэ твайо. А цудзоложнікі майуць уставаць на Суд божы у п(а)рсоне сабачэй.

## Пра маральныя вартасці

* Чэтыры рэчы чалавека здобець *(упрыгожаць)*, йак дарагі камен(ь). Першы: розум, вера, ўстыдлівосьць, учынак добры. А чэтырма рэчамі ліхімі тыйе чэтыры добрыйе запсуйе: йак зазлуйецца – загіне розум, йак блуд учыніць – загіне вера, йак на што паквапіцца – зьгіне у йаго ус(ты)длівосьць, йак прагавор *(абгавор)* учыніць – загіне учынак добры.

* Хто ужывайе харам *(забараненае мусульманскімі законамі)*, сем рэчэй злогу сабе шкадлівога майе мець. Першайе: жывот його чорны будзе, і прозьба його да Пана Бога не будзе даходна, і моцы мець не будзе, чутасьці у вушах, йаснасьці у вачах не будзе мець, і спору у даму не будзе.

## Пра дзве залатыя пліты і трох чалавек

Іся *(Ісус)* прарок аднаго дня йехаў с трыма (ч)алавекамі у таварыства Абадыйе. Йедучы, две залатыйе пліты віздзелі. Іся да свайіх таварышаў мувіл: жываты вашы йак квапецца, не берыце, бо то зла рэч. Тыйе тры чалавекі не слухалі, засталісе, Іся пайехаў. Тыйе тры чалавекі аднаго паслалі да места купіць жыўнасьці і хлеба, пілу купіць тыйе пліты парэзаць, на тройе падзеліць. Той, каторы пайехаў да места, купіў хлеба і стравы і труцізны *(атруты)* купіў, намешаў істравай *(са стравай, у страву)*, штоб тыйе памерлі, йему золата застала. А тые намовілісе, йак йон прыйдзе, забйом його, нам двум золата застанецца. То йак прынёс йім йедзене, йены його зараз забілі, самі селі йесць і струцізнай йелі і паумералі. Іся прарок вернуўсе на тойе мейсца, аж усе тры умерлыйе лежаць, а тойе золата цэлайа лежыць. Іся прарок тойе золата у земл(ю) удэптаў і мувіл: Божэ мілосьцівы, ад мілаванне сего сьвету нас, халапоў, сьцерэжы. Амін.

## Пра п'янства і п'яніц

* Прарок мувіл: хто бы меў віна або хмел(ь)наго напітку адзін куфел(ь) выпі(ць), іман *(вера)* ад його адыйдзе і да сараку дней да його не увойдзе.

* Хто бы меў упіцьсе йакога кол(ь)век напітку, Пан Бог йему дасьць тысеча мест із агн(ю), а ў кажным месцэ – тысеча дамоў із агн(ю), а ў кажным доме – тысеча веж із агн(ю), а ў кажнай вежы – па тысечэ пасьцелей із агн(ю), а ў кожнай пасьцелі – тысеча вужоў і тысеча мук із агн(ю).

* Прарок мувіл: пйаніца на Судны дзен(ь) устане у парсуне *(у абліччы)* сьвінной за тойе, што хмел(ь)ны напітак піў, і да пекла пажануць. У пекле не будуць каштаваць ветру зімнаго, не будзе ані вады зімнай не абачэць, піць будуць гарачуйу ваду і сукравіцу з цел л(ю)дзкіх цекучуйу піць у пекле, піць будуць той напітак. Пан Бог назначыў гэты напітак пйаніцам (...) бязпакайатным (...) калі б

на паўнохця на гэты сьвет указаў *(гэты напітак)*, то бы із велікаго сьмроду л(ю)дзі вымерлі б.

* Хто бы меў адзін куфел(ь) хмел(ь)наго трунку *(напітку)* выпіць, йего нутр чорны будзе. А калі два куфлі выпйе, два ангелы адракуцца. А калі тры куфлі выпйе, душэйімца *(архангел Азьраіл)* душу йего з гневам озьме. А калі чэтыры куфлі выпйе, прарок йего мілосць адрэчэцца. Калі пяць куфл(я)ў выпйе, Джэбраіл *(архангел Гаўрыіл)* адрэчэцца. Калі шэсьць куфл(я)ў выпйе, сэхабейове *(паплечнікі, суполка)* адрэкуцца. Калі сем куфл(я)ў выпйе Ісьрафіл адрэ(ч)эцца. Калі осім куфл(я)ў выпйе, Міхаіл *(архангел)* адрачэцца. Калі дзевець куфл(я)ў выпйе, земл(я) адрэчэцца. Калі дзесець куфл(я)ў выпйе, земля адрэчэцца. Калі адзінаццаць куфл(я)ў выпйе, усе мора і рыба адрэкуцца. Калі дванаццаць куфлеў выпйе, месец, слонца адрэ(ч)эцца. Калі трынаццаць куфл(я)ў выпйе, небескійе зьвезды адракуцца. Калі чэтырнаццаць куфлеў выпйе, усе удыхане *(жывыя істоты, жывёлы, птушкі)* адракуцца. Калі петнаццаць куфлеў выпйе, райськійе варота замкнуцца. Калі шэсьнаццаць куфлеў выпйе, пекел(ь)ныйе варота адчынецца. Калі семнаццаць куфлеў выпйе, на небе ангелы адракуцца. Калі асімнаццаць куфлеў выпйе, то усе пракокі адракуцца. Калі дваццаць куфлеў выпйе, то сам Пан Бог йедыны усіх сьветоў стварыцел(ь) адрэчэцца.

***2.*** *Цяпер хацелася б звярнуцца непасрэдна да публікацыі С. Богдана і В. Гушчы.*

*Сама па сабе тэма і пададзены матэрыял выклікаюць жывую цікавасць. Ёсць шмат слушных прапаноў, на якія, безумоўна, адгукнуцца чытачы.*

*У сваёй публікацыі С. Богдан і В. Гушча пішуць: "Татары прынесьлі ў беларускую культуру — "аліф". Яго называюць "арабскім", аднак створана яно хутчэй на пэрсыдзка-цюркскай аснове, пра што сьведчыць наяўнасць у пэрсыдзкім і беларускім аліфах літараў* ***"п", "ж", "ч"****, якіх няма ў сапраўднай арабскай абэцэдзе". І далей, у трэцяй частцы публікацыі: "Расчытаны намі Кітаб (...) гэткую абэцэду называе* ***"аліфам"****, а яе знакі —* ***"харфамі"****. У аліфе 28 харфаў. Чаму* ***"аліф"?*** *Гэтак называецца першая літара арабскае абэцэды..." Пагэтаму аўтары публікацыі прапануюць адмовіцца ад назвы* ***"арабіца"*** *і называць арабскае пісьмо аліфам, бо выкарыстаны арабскі алфавіт у кітабах "значна адрозніваецца ад абэцэды арабскае мовы».*

*Але ці так гэта? Не, не так. Па-першае, аліфам у кітабе Хасяневіча называецца ўласна* ***арабскае пісьмо,*** *а не дастасаванае татарскімі кніжнікамі да беларускай фанетыкі. Перапісчык потым пералічвае ўсе 28 літар арабскага алфавіта (і яшчэ 29-ую —* ***Ла,*** *лігатуру, літару, утвораную з літар* ***лям і аліфа****). Перапісчык не гаворыць пра ўсе 33 літары дастасаванай арабіцы. Ён, яшчэ раз*

*пайтаруся, называе 29 літар (з лігатурай* ***Ла****)* ***аліфам,*** *без дадатковых літар для беларускай фанетыкі. Што ж да пяці дадатковых літар, якія ўзніклі рознымі шляхамі (некаторымі даследчыкамі згадваецца ўплыў цюркскіх алфавітаў, то ўсе яны, без выключэння, ярка стылізаваны пад арабскае пісьмо, на ўзор канкрэтных арабскіх літар. Перш чым цюркскія літары зрабілі ўплыў на аліф, яны самі адчулі ўплыў уласна арабскага алфавіта. Гэта — па-другое. Пра які "значны" уплыў на арабіцу можна гаварыць? Выдумка, не болей.*

*Магчыма, і ёсць падставы культурна-гістарычнага кшталту карыстацца тэрмінам* ***"аліф",*** *але і сінанімічная назва* ***арабіца*** *мае права на існаванне, і не меншае, бо ёсць аналагічныя тэрміны* ***кірыліца, лацініца.*** *Назву* ***"арабіца"*** *зразумее чалавек, які філалогіяй не займаецца, назва* ***"аліф"*** *запатрабуе тлумачэння.*

*Можна пашкадаваць, што ў прыведзенай табліцы з арабскім алфавітам —* ***аліфам*** *(с. 8) не абазначаюцца мяккія гукі і тым самым не адрозніваюцца ад цвёрдых. У чытача натуральна ўзнікне пытанне: а навошта некалькі літар для абазначэння аднаго і таго гука? І праўда. Гук* ***З*** *паводле прыведзенага ў газеце алфавіта абазначаецца літарамі* ***За, Заль*** *і* ***Зо*** *(назва аўтарская). Але першымі дзвюма літарамі ў кітабах абазначаецца мяккі* ***З****, а трэцяй — цвёрды* ***З****. Тое самае з літарамі* ***Ка*** *(для абазначэння цвёрдага* ***К****) і* ***Каф*** *(для абазначэння мяккага* ***К****). Дарэчы, навошта прыдумваць новыя назвы літар, калі "старыя" — больш лагічныя? Літара для абазначэння цвёрдага* ***К*** *—****Каф****, для абазначэння мяккага* ***К — Кяф****.*

*Ёсць і іншыя пытанні да С. Богдана і В. Гуцічы, якія зрабілі спробу "ўпарадкаваньня аліфу". Напрыклад: навошта для сучаснага карыстання аліфам дзве літары для абазначэння гука* ***Х****? У чым іх функцыянальная розніца?*

*Калі існуюць дзве літары для перадачы* ***Г****, то можна здагадацца, што адна літара — для* ***Г*** *фрыкатыўнага, а другая — для* ***Г*** *выбухнога. Але ў "спарадкаваным" алфавіце не пазначана, дзе — якая.*

*З якога часу арабская літара* ***Йа*** *стала абазначаць гук* ***І****?*

*Які гук у беларускай мове аўтары збіраюцца абазначаць літарай* ***Тэ*** *(чацвёрты радок, назва зноў жа аўтарская)? Гэтай літарай у тэкстах 17 ст. абазначаўся* ***мяккі Т****, у тэкстах 18—19 ст. — карысталіся хутчэй па традыцыі, і, як правіла, абазначаўся этымалагічна* ***цвёрды Т****. Але ж для абазначэння* ***цвёрдага Т*** *ёсць іншая, "свая", літара* ***То****. (Мяккага зычнага* ***Т*** *у беларускай мове, як вядома, няма).*

*Што чуваць пра абазначэнне галосных гукаў "агаласоўкамі", якім аўтары прыдумалі новыя назвы, адпаведныя іх выгляду? Дзе самі "агаласоўкі"? Чаму адсутнічаюць у публікацыі наогул?*

*Замест "упарадкаваньня аліфу" атрымліваецца неразбярыха. Не хачу пакрыўдзіць аўтараў, але ў манаграфіі "Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом" (1968) Антановіча А.К. усе гэтыя моманты прапісаны не проста акуратна, а з любоўю, і разабрацца там можа любы і кожны. Тут — не.*

*"Некаму нашая спроба ўпарадкаваньня аліфу падасца рэанімацыяй трупа", — пішуць два аўтары. А што, уласна кажучы, патрабавала такога ўжо ўпарадкавання? Адсутнічалі назвы літар, створаных на беларускай моўнай глебе? І што? Гэта вялікая перашкода для авалодання навыкамі пісьма? Не. Іншая справа, што, каб пісаць арабскімі літарамі па-беларуску, трэба добра ўяўляць сабе нормы правапісу. А яны выпрацоўваюцца не адразу. Аўтары і тут скорыя на вырашэнне праблемы: "як будзеце пісаць, трымайцеся аднаго варыянту". Выключна моцна! Гэта самая кароткая "граматыка" , якую даводзілася чытаць. А між тым ёсць сур'ёзныя праблемы ў дастасаванні і выкарыстанні арабскага пісьма для запісу беларускай мовы. Гэта, напрыклад, праблема, якая не была вырашана татарскімі кніжнікамі: перадача на пісьме цвёрдасці-мяккасці беларускіх зычных.*

*Пойдзем далей. "Трэба сказаць пра абсалютную неўпарадкаванасць артаграфіі аліфнага пісьма, перапісчыкі пісалі так, як ім здавалася"... Так пішуць навукоўцы. І далей: "шукаць заканамернасьцяў у тагачасным аліфным правапісе — справа марная".*

*Сапраўды, Кітаб Хасяневіча не паслядоўны ў выкарыстанні адзіных арфаграфічных норм (па гэтай праблеме мною падрыхтавана публікацыя ў навуковае выданне). Але навошта гэта пераносіць на ўсе кітабы? Тут калі і ёсць што "абсалютнае", дык толькі некарэктнасць і паспешлівасць. Варта ўзяць згаданую кнігу Антона Антановіча, і чытач пераканаецца ў адваротным. Цытую Антановіча: "арфаграфія кітаба (1837 г.) Шагідзевіча вельмі паслядоўная" (с. 82). Або: "арфаграфія рукапіса дастаткова паслядоўная" (пра тэкст 1815 г.) (с. 75).*

*Гэта або неабачлівая заліхвацкая заява, або звычайнае хуліганства. Хутчэй за ўсё першае. Танальнасць пагарды, узятая С. Богданам і В. Гушчам ў аглядзе навуковых прац (пра што ніжэй), праяўляецца і тут.*

*Няма ў аўтараў С. Богдана і В. Гушчы падстаў абясняць моўную каштоўнасць кітабаў. Мове вядомых і апісаных А.К. Антановічам кітабаў, асабліва XVIII і пачатку XIX ст.ст., уласціва ўнармаванасць, па крайняй меры, арфаграфічная. Рукапіс Хасяневіча ў гэтым сэнсе з'яўляецца выключэннем. Калі перапісчык садзіцца за сваю справу і бярэ ў рукі пяро, то літаратурна-пісьмовая норма тут жа ўступае ў свае правы — у большай ці меншай ступені. Вось што важна помніць...*

*Звернемся да транслітараваных С. Богданам і В. Гушчам беларускіх тэкстаў. Справа аўтараў, якой сістэмай карыстаюцца пры транслітарацыі — з элементамі фанетычнай транскрыпцыі (гучання) ці увогуле вольна пераказваць тэкст. Але пры любой канверсіі павінна захоўвацца спецыфіка арыгінала. І там, дзе мяккі зычны, то яго адпаведна і перадаюць. Аўтары гэтага не прытрымліваліся. У аўтараў:* ***Забур*** *(маецца на ўвазе Псалтыр), у арыгінале:* ***Зябур.*** *У аўтараў:* ***Загідова, Загідка*** *(аўтары лічаць гэта ўласным імем. Сумнійна! Гл. кантэкст: словам* ***Зягідове*** *звяртаюцца да маці-ўдавы і сына адначасова, а словам* ***Зягідка*** *— да жонкі-ўдавы), у тэксце:* ***Зягідове, Зягідка.***

*Расчытка асобных мясцін не характарызуецца аб'ектыўнасцю. Параўнаем адзін толькі ўрывак. У публікацыі С. Богдана і В. Гушчы:*

*Сулейман пытаў у сваіх паноў-маршалкаў у старэйшых (ці хопіць пачастунку на ўсіх). "Старшына, — мовілі, — і крулю ня только на дзень, але на кілько дзесент дней можа быць, і сам, і дзейце ўсіткага сяла([і любым дзейкам хопіць)". У дужках — аўтарскі каментарый.*

*У арыгінале:*

*Сюлейман пытаў у свайіх паноў, маршалкаў, у старшых; ці будзе досіць? Старшына мувілі: І, крул(ю), не тыл(ь)ко на дзен(ь), але на кіл(ь)ка дзесент дней мож э быць і сам відзіў жэ ушыткег о сіла".*

*Неадпаведнасці падкрэслены. Каментарый:* ***досіць*** *(аўтары яго чамусьці апусцілі) — бел.* ***досыць;*** *і,* ***крулю*** *адпавядае бел.* ***ай, каралю****. Слова* ***І*** *ў дадзеным выпадку — выклічнік цюркскага паходжання, адпавядае беларускаму выклічніку* ***ай****. У аўтараў — гэта злучнік. Ёсць шэраг фанетычных памылак. І ўжо зусім нечаканае — "дзейка" ўсіткага (?) сяла (?). Адкуль там дзейка? У каментарыі аўтараў — увогуле "любыя дзейкі", якім "хопіць" (у тэксце размова пра яду).*

*Няма ў арыгінале "дзевак". Няма. Вымысел. Што да "ўсіткага", то гэта* ***ушыткего*** *— зменанае польскае слова* ***вшысткего*** *"ўсяго". Выклікае, безумоўна, роздум слова "сіла". Цёмная мясціна, але не дадумваць жа.*

*Гэта, на жаль, не адзіны недагляд. Так, са слова дзісейшага (дня), г. зн.* ***сённяшняга дня, сёння*** *аўтары зрабілі два, ды яшчэ з каментарыем, які зацямняе сэнс выказвання: "дзе (быццам бы) сейсяга дня." Што можна зразумець з гэтай абракадабры? Не разабраліся аўтары і са словамі* ***йедзене (ядзенне, яда, страва),*** *яно ў іх — "едзена". Старажытнае слова* ***ўдыханні (звяры, рыбы, птушкі, увогуле жывыя істоты)*** *у аўтараў "удыхана". Безумоўна, ніхто не гарантаваны ад недаглядаў і памылак, хоць выпраўляць*

*іх трэба. Іншая справа, што рабіць гэта трэба ў карэктнай форме, пра што і пойдзе размова ў заключэнні.*

*Увогуле ўся публікацыя С. Богдана і В. Гушчы дзеліцца на некалькі частак. Найбольш вабная — матэрыялы з кітаба Хасяневіча. Можна было б на гэтым паставіць кропку, каб не адна акалічнасць. Гэтая акалічнасць называецца выхаванасцю. Цяжкае ўражанне засталося ад першай часткі публікацыі. Ёсць веды, але няма павагі, адсутнічае паважлівая ацэнка зробленага нашымі папярэднікамі.*

*"На жаль, дасёньня нашыя навукоўцы не займаліся гэтымі кнігамі сур'ёзна". А як? Смехам? Ці трэба гэта разумець так, што гісторыя даследавання кітабаў цяпер будзе дзяліцца на два перыяды: да публікацыі С. Богдана і В. Гушчы і пасля?*

*Вось незаўважанай была кніжка А.В. Мухлінскага, выдадзеная ў 1857 г. у С.-Пецярбургу. Так беларусы пішуць пра славутага земляка з-пад Навагрудка Антона Восіпавіча Мухлінскага, прафесара і дэкана факультэта ўсходніх моў С.-Пецярбургскага універсітэта. На кніжцы, напэўна, ёсць год выдання і месца, а ў кніжцы зачэплены праблемы, якія абуджаюць нацыянальную свядомасць. Дык і не дзіва, што царская афіцыйная навука змаўчала.*

*Кніга Антона Канстанцінавіча Антановіча "Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма" (1968) ставіць беларускае мовазнаўства ўпоравень з сусветнымі дасягненнямі ў гэтай галіне. Пра яе — мімаходзь, паўслова.*

***"Многія навукоўцы ў працах пра беларускіх татараў выяўляюць сваю некампетэнтнасць". Успамінаецца імя вядомага вучонага, які шмат зрабіў у галіне гісторыі беларускай мовы.***

*Ну і што, калі "выяўляюць некампетэнтнасць". А калі гэта не так? Ёсць на гэта ў мяне сумненні. А Вашы прыдуманыя "дзейкі", "усіткі", "ўдыхана", "едзена", "дзе сейсяга"? А пачытайце пачатак пятага абзаца на с. 8 «НН», дзе напісана, што арабскае пісьмо ідзе "зьлева направа". Які загадаеце зрабіць вывад? А ці дакладна запісана па-беларуску фраза на с. 8 пад арабскім радком "За пажыткі дзякуюць, за нэндзу (нехай) церпяць"? У дужках — прапушчанае ў транслітарацыі слова.*

*Зусім неабгрунтаванае наступнае сцвярджэнне аўтараў: "Пра іншыя матэрыялы* ***гэтых зборнікаў*** *(маюцца на ўвазе зборнікі публікацый па матэрыялах тэматычных канферэнцый, якія ладзіліся з ўдзелам грамадскага аб'яднання "Аль-Кітаб") і* ***такое літаратуры*** *часам проста няма чаго й сказаць"... У сувязі з гэтым успамінаюцца словы класіка: Хто такі літаратурны крытык? Гэта такі самы малады чалавек, але менш таленавіты і менш разумны, чым пісьменнік.*

*"Дарэмна шукаць вычарпальную інфармацыю пра Кітабы і ў Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі», — пішуць далей С. Богдан і В. Гушча. Дык на тое гэта і энцыклапедыя — сціслa, бо аб'ём*

*слоўнікавага артыкула абмежаваны, але пра ўсё. Цяжка мне ацэньваць такі стыль і такую пагарду да раней набытага.*

*"Прыходзіцца часам сумнявацца і ў тым, што аўтар чытаў тыя кніжкі, пра якія піша, — скажам легенду пра ўзнясеньне Мухаммада на неба В. Несцяровіч называе паэмай, хоць твор гэты ніяк пад азначэньне паэмы не падпадае". Што праўда, то праўда, памылковае азначэнне. Цяжка растлумачыць, чаму так напісалася. Але што з гэтага? Няўжо гэтая памылка ўнесла такое сумненне? А што калі В. Несцяровіч чытаў гэтую легенду? І не толькі гэта?*

*Пішу гэта і думаю, ну чаму беларусы і беларускамоўныя аўтары змоладу (?) пачынаюць з пагардліва-амбіцыйнага расшпурхоўвання іншых беларускамоўных аўтараў? Быццам жывём на варожых тэрыторыях. Няўжо ж нельга было падказаць хоць бы такім чынам: легенда Мерадж напісана ў такой ступені ўрачыста, узнёсла, з выкарыстаннем вобразных сродкаў тагачаснай беларускай мовы, што асобныя аўтары памылкова называюць легенду паэмай?*

*У канцы публікацыі аўтары даводзяць перавагу арабскага пісьма пры трансліттарацыі ўсходніх геаграфічных назваў і ўласных імёнаў. З гэтым можна пагадзіцца. "У расейцаў і эўрапейскіх народаў няма традыцыяў пісьма арабскімі літарамі, таму і даводзіцца ім прыдумляць розныя сыстэмы трансьлітарацыі", — пішуць С. Богдан і В. Гуміча. На гэта можна сказаць так: гэта калі палякаў і сербаў не лічыць еўрапейцамі, бо ёсць кітабы, напісаныя польскай і сербскай мовамі. "Але ж мы маем свой аліф, адпаведна і няма чаго нам вычварацца" — заключаюць аўтары.*

*Што праўда, то праўда. Вычварацца не варта. Ў самы раз паставіць кропку.*

**Віктар Несцяровіч.**
*г. Віцебск.*



# У ДУХУ СВАІХ ПРАШЧУРАЎ

## (да 80-годдзя з дня нараджэння беларускага пісьменніка Сцяпана Александровіча)

Публікацыі апошніх гадоў даюць нам усё больш і больш звестак пра велізарную павагу татараў часоў сярэднявечча да беларускай мовы. Трапіўшы ў наш край у канцы XIV ст., яны ўступілі ў самыя разнастайныя кантакты, у тым ліку і моўныя, з мясцовым насельніцтвам. Для апошняга гэта мела вынікам пранікненне

татарскіх слоў у яго лексіку, а вось прышлыя да нас з усходніх стэпаў качэўнікі дзесьці ў канцы XVI ст. практычна страцілі сваю родную мову і сталі карыстацца беларускай, якая ў Вялікім Княстве Літоўскім з'ўлялася адзінай дзяржаўнай. Праўда, пазней, калі Беларусь падпала ў перыяд Рэчы Паспалітай пад прэс паланізацыі, а ў часы знаходжання ў складзе Расійскай імперыі і СССР трапіла пад махавік русіфікацыі, значная частка татараў апынулася спачатку ў сферы ўплыву польскай культурна-моўнай стыхіі, а затым рускай. Гісторыі вядомы выпадкі даволі плённай працы татараў Беларусі як на ніве польскай, так і рускай культуры і навукі.

Самыя шырокія магчымасці прысвяціць свой талент развіццю рускай літаратуры на Беларусі былі ва ўраджэнца Капыля Сцяпана Александровіча, татарына па паходжанні. У літаратуры ён сур'ёзна заявіў пра сябе ў 50-я гады, г.зн. у час, калі ўжо існавала праблема з захаваннем нацыянальных традыцый ва ўсіх сферах нашага культурнага жыцця. Адсутнасць магчымасці атрымаць прафесію за час вучобы ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах на беларускай мове зрабіла яе непрэстыжнай у вучняў агульнаадукацыйнай школы і іх бацькоў. Той частцы з іх, што не вызначалася здаровай нацыянальнай самасвядомасцю, нічога не заставалася рабіць, як распачаць змаганне за перавод беларускамоўных агульнаадукацыйных школ у рускамоўныя, добра ведаючы, што іх «інтэрнацыяналістычную ініцыятыву» падтрымаюць партыйныя і савецкія вярхі. Так яно і здарылася, што ў пэўнай ступені паўплывала і на выбар некаторымі этнічнымі беларусамі рускай мовы ў якасці рабочай для літаратурнай дзейнасці. У падобных варунках нікога не здзівіла б, калі б на такі шлях стаў і Сцяпан Александровіч.

Да гонару выдатнага беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка і краязнаўца, якому сёння споўнілася б не так і многа — 80 гадоў, такога з ім не здарылася. Акурат у час, калі дэнацыяналізацыя ўжо пачала падсоўвацца пад самыя падваліны нашага духоўнага жыцця, ён выдае на беларускай мове дзве кнігі «Старонкі братняй дружбы» *(1960)* і «Гісторыя і сучаснасць» *(1968)*.

Акрамя ўсіх іншых прычын, пісаць на беларускай мове падштурхоўвала дапытлівага даследчыка добрае веданне яе ролі ў культурным жыцці літоўскіх *(беларускіх)* татараў у далёкія часы сярэднявечча. Ці ж мог С. Александровіч не паважаць мову, якой яго продкі карысталіся пры напісанні сваіх свяшчэнных кніг — кітабаў, што такім велізарным духоўным здабыткам прызнаваліся ў адукаваных татарскіх сем'ях? Вядома, не.

Сапраўдным апафеозам пашаны і любові С. Александровіча да беларускай мовы з'явілася яго кніга «Пуцявіны роднага слова» *(1971)*, ад знаёмства са зместам якой, думаю, нямала людзей стала задумвацца над тым, што пачварнае ў наш край нясе русіфікатарская палітыка, і таму пачала больш актыўна супрацiўляцца працэсам асіміляцыі, бачачы ў ёй сур'ёзную прычыну размывання этнакультурнай самабытнасці беларусаў, паколькі бязлітасна нішчыцца

яе першаснова – мова. Старонкі згаданай кнігі проста перапоўнены фактамі, як ва ўмовах імперскай Расіі ўлюбёныя ў свой край людзі самаададана змагаліся за выжыванне роднага слова. А гінула ж, мізарнела гэтае слова, як неаднаразова сцвярджалася ў кнізе, з-за недапушчэння яго ў сферу народнай адукацыі і ў запанаваную на Беларусі праваслаўную царкву. Тут пальма першынства належала рускай мове, дзеля чаго не шкадавалі сіл і энергіі ні цэнтральныя ўлады імперыі, ні адданая ёй мясцовая адміністрацыя прарускай накіраванасці.

Каб зрусіфікаваць беларусаў, іх патрэбна было спачатку вызваліць ад усіх паланізацыйных напластаванняў. Дзеля раскрыцця чытачу гэтага працэсу С. Александровіч выкарыстаў вельмі трапную цытату з кнігі «Русское дело в Северо-Западном крае» *(СПб, 1901)* папечыцеля Віленскай навучальнай акругі Івана Карнілава – аднаго з самых адданых паплечнікаў душыцеля паўстання пад правадырствам Кастуся Каліноўскага *(1863–1864 гг.)*, віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва: *«Няма чаго нам узбройвацца супраць паланізму войскамі, гарматамі, паліцыяй, тайнай і яўнай... Руская адукацыя мацней за рускі штык. За якія-небудзь чатыры гады рускія школы зрабілі больш для адукацыі народа і аслаблення паланізму, чым войскі за дзесяткі год» (с. 38)*. Прачытаўшы такое ў кнізе С. Александровіча, кожны, нават слаба дасведчаны ў тонкасцях нацыянальнай палітыкі камуністычнай партыі ў савецкі перыяд, разумеў, што і ад масавага пераводу навучальных устаноў у 60–70-ыя гады XX ст. з беларускай мовы на рускую нічога пазітыўнага, акрамя разбурэння этнакультурнага патэнцыялу беларускага народа, нельга было чакаць. Пісаць жа пра гэта адкрытым тэкстам было не толькі небяспечна, але і не рэальна дайсці да чытача з-за жорсткай савецкай цэнзуры.

Цытатаў падобнага зместу ў кнізе была процьма, таму як бы яе аўтар ні спрабаваў схаваць свой погляд, сваё стаўленне да сучасных яму працэсаў дэнацыяналізацыі беларускай культуры, гэтага зрабіць не ўдалося. Не раз даводзілася і мне чуць ад прадстаўнікоў з дэнацыяналізаванай інтэлігенцыі, што дадзеная кніга напісана з пазіцый, якія супярэчаць прагрэсіўным прынцыпам сацыялістычнага інтэрнацыяналізму. Асабліва запамяталася адно з пасяджэнняў вучонай рады Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, якое праводзілася неўзабаве пасля выхаду ў свет кнігі «Пуцявіны роднага слова». На парадку дня рады гэтае пытанне не стаяла, але ў сваім выступленні кандыдат гістарычных навук Яфрэм Карнейчык *(на працягу 1946–1950 гг. працаваў намеснікам дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б; у 1969 г. выдаў напісаную з пазіцый нацыянальнай палітыкі бальшавіцкай партыі кнігу «Беларуская нацыя. Гістарычны нарыс»)* назваў Сцяпана Александровіча махровым беларускім нацыяналістам, якога нам, гісторыкам, трэба як след выкрыць. На гэтыя словы з залы пасяджэнняў пачулася ад маладога навукоўца трывалай навуковай арыентацыі Міхася Біча рэпліка: *«Ён жа татарын па нацыянальнасці!»*, на што быў адказ: *«Нічога, дабяромся і да татарына»*. Пасля такога кароткага дыялогу выступоўца працягваў выказваць свае крытычныя заўвагі датычна немарксісцкіх

поглядаў С. Александровіча на беларускае пытанне. Мне не даводзілася сустракаць у друку наконт гэтага палемікі Я. Карнейчыка з С. Александровічам. Магчыма яе і не было, бо апанент беларускага нацыяналіста татарскага паходжання 18 студзеня 1972 г. адышоў у лепшы свет.

Сцяпан Александровіч ніколі не належаў да палахлівага дзесятка. Ушчуванні за беларускі нацыяналізм у зоркавы час пабудовы камунізму ў СССР, што павінна было прывесці да канчатковага знікнення міжэтнічных адрозненняў савецкіх народаў, ніколькі не падзейнічала на характар далейшых даследаваняў. Беларуская нацыянальная ідэя на ўвесь свой рост дэмінавала і ў яго наступных творах: «Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі» *(1975)*, «Кнігі і людзі» *(1976)*, «Слова – багацце» *(1981)* і інш.

Як і многіх даследчыкаў, С. Александровіча ўвесь час цікавіла праблема ўдзелу беларусаў у народніцкім руху. Недахвату ў такой літаратуры ў нас быццам бы і не існавала, асабліва пасля выхаду ў свет у 1972 і 1976 гг. кніг Сусаны Самбук «Революционные народники Белоруссии (70-е – начало 80-х годов XIX в.)» і «Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX века». Аднак з гэтай шматпланавай праблемы аўтары разглядалі пераважна толькі палітычны, сацыяльна-эканамічны аспекты, свядома ўхіляючыся ад асвятлення нацыянальнага, хаця ва ўмовах Беларусі 70-х – 80-х гадоў, калі тут дзякуючы старанням ідэалагічнага партыйнага апарату так моцна разгулялася культурна-моўная асіміляцыя, менавіта гэты аспект набыў найбольшую актуальнасць. Людзям трэба было паказаць, што нам і раней даводзілася сутыкацца з гэтай пачварнай з'явай, што і ў нас ёсць багаты вопыт змагання як з паланізацыяй, так і з русіфікацыяй, што нацыянальная ідэя хвалявала прагрэсіўныя колы беларускага грамадства вельмі даўно, таму пра яе нельга забывацца і ў XX стагоддзі. А забывалася яна па віне тых, хто фармаваў тады грамадскую свядомасць народа.

Сцяпан Александровіч знайшоў вельмі выдатны сродак наблізіць людзей да беларускай нацыянальнай ідэі. Шукаў жа яе сумесна са сваёй дачкой Ірынай Александровіч у творах беларускіх народнікаў. Пошукі закончыліся выданнем у 1983 г. кнігі «Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников *(1881–1884)*». У яе ўвайшлі дагэтуль недрукаваныя ў нас «Письма о Белоруссии», «Послание к землякам-белорусам» і поўны тэкст нелегальнага рускамоўнага часопіса «Гомон» *(№ 1,2)*, якія выдавала беларуская фракцыя партыі «Народная воля» ў Маскве. Для многіх чытачоў гэтай кнігі было сапраўдным адкрыццём, калі з яе старонак яны даведаліся, як далёка наперад рушылі нашыя народнікі ў распрацоўцы асноўных палажэнняў беларускай нацыянальнай ідэі. Нягледзячы на страшэнную фальсіфікацыю польскімі і рускімі даследчыкамі этнічнай гісторыі беларускага народа, яго найлепшыя прадстаўнікі, што ўдзельнічалі ў народніцкім руху, і самі верылі і чытачам з зайздраснай пераканальнасцю даказалі, што беларусы – гэта не палякі, і не рускія, а самабытны этнас, таму мае ўсе падставы змагацца за сваю «федэратыўную самастойнасць» у складзе Расіі.

Мы і сёння павінны быць удзячнымі Сцяпану і Ірыне Александровічам, што ні дзесьці ў архіўных крыніцах альбо ў дарэвалюцыйных перыядычных выданнях, а ў падрыхтаванай імі кнізе можам прачытаць такія надзённыя словы: *«Гістарычны прагрэс заключаецца ў тым, што чалавецтва, уваходзячы ўсё ў больш і больш блізкую сувязь, у той час дзіферэнцыруецца для вольнага развіцця і праяўлення ўсякай нацыі ў цэлым чалавецтве, усякай грамадскай самастойнай групы ў кожнай нацыі і ўсякай чалавечай асобы ў гэтай грамадскай групе. Без усведамлення сваёй асобы кожным чалавекам народ быў бы быдлам; без усведамлення сваіх асаблівасцяў кожным народам такім быдлам было б усё чалавецтва. Гісторыя чалавецтва заключаецца менавіта ў тым, што з першапачатковай абыякавасці дзікіх народаў стала вылучаюцца* ***асобы народаў*** *гістарычна цывілізаваных»* (с. 109). Усё гэта крайне не стыкавалася з палітыкай партыйных і савецкіх органаў Беларусі па нівеліраванні культурна-моўных адрозненняў яе карэннага насельніцтва і нацыянальных меншасцяў. Не стыкуецца яно і сёння, паколькі не забяспечваюцца разумныя суадносіны паміж беларускім і рускім фактарамі ў нацыянальна-культурным і моўным жыцці краіны.

І на момант з'яўлення ў свет кнігі «Публицистика белорусских народников», і зараз шмат карысці можна ўзяць ад азнаямлення з такім месцам на яе 25-й старонцы: *«Мы бачым перш за ўсё, што наша радзіма спіць сном непрабудным і толькі зрэдку прачынаецца, каб зірнуць, ці не з'явіўся хто-небудзь разбудзіць яе ад сну, дапамагчы ёй... Але, заўважыўшы, што будзіць з'яўляюцца не свае сародзічы, а людзі, чужыя народнага жыцця, яна зноў засынае, уяўляючы сабою нібы зачараванае царства з удушлівай атмасферай, у якой не толькі няма моцы рухацца, але і дыхаць няма чым...».* Няпоўнае прабуджэнне беларусаў ад летаргічнага сну, архінізкая іх нацыянальная актыўнасць прычыніліся да таго, што за дзесяць гадоў палітычнага незалежнага жыцця мы не стварылі сапраўднай суверэннай дзяржавы, не выйшлі з эканамічнага застою, не зрабілі аніводнага кроку, каб спыніць этнакультурнае выміранне карэннага насельніцтва краіны, што не прыносіць аніякай карысці і яе нацыянальным меншасцям. Самыя старажытныя з іх украінская, татарская, яўрэйская, больш здольныя жыць і жывуць у рускай культурна-моўнай стыхіі, а не ў сваёй уласнай нацыянальнай.

Лёс не наканаваў С. Александровічу доўгага веку. Яго зямное жыццё скончылася 1 мая 1985 г., калі ішоў 65-ы год і можна было працягваць займацца любімай працай, для якой ужо існавалі непараўнальна больш спрыяльныя ўмовы. Не сумняваюся, што С. Александровіч актыўна далучыўся б да мастацкага, публіцыстычнага паказу мінулага і сучаснага татарскай супольнасці, якую ён абмінуў у сваіх даследаваннях, як гэта рабілі тады і прадстаўнікі ўсіх іншых нацыянальных меншасцяў Беларусі. Не была моднай такая тэматыка. Затое ўсяляк заахвочвалася напісанне прац пра фармаванне ўяўнай новай гістарычнай супольнасці – савецкага народа. З вялікай радасцю вітаў і браў бы С. Александровіч актыўны ўдзел у нацыянальна-адраджэнскім руху татараў, не адрываючы яго ад беларускага культурна-моўнага жыцця, якому аддаў столькі творчых сіл і энергіі. Смерць не дазволіла заняць пачэснае месца на правым фланзе змаганцаў за

татарскую справу, якая і тады і сёння мае вялікую патрэбу ў сапраўдных адраджэнцах.

Шмат з таго, што ўжо зроблена і робіцца дзеля вяртання беларускіх татараў да сваіх этнакультурных і рэлігійных вытокаў, несумненна, моцна цешыла б С. Александровіча. Ён цалкам падзяляў бы, што гэты архіважны і надзвычай важны працэс многія з кіраўнікоў татарскага адраджэння цесна ўвязваюць з карэннымі нацыянальнымі інтарэсамі беларусаў як тытульнага народа краіны, бо якраз і сам нязменна трымаўся такой пазіцыі.

Сёння ў нас дастаткова падставаў называць шчырымі паслядоўнікамі С. Александровіча даволі вялікую колькасць актывістаў татарскага нацыянальна-культурнага і рэлігійнага адраджэння на беларускай зямлі. Не толькі ў сваім этнічным асяроддзі, але і ў колах нацыянальна-зарыентаванай часткі беларускага народа заслужана вялікім аўтарытэтам карыстаюцца віцэ-прэзідэнт Згуртавання «Зікр уль-Кітаб», дацэнт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка Ібрагім Канапацкі, які першым сярод выкладчыкаў гэтай прэстыжнай у рэспубліцы навучальнай установы пачаў працаваць са студэнтамі на беларускай мове і нязменна карыстаецца ёю падчас удзелу ў рознага роду мерапрыемстваў нацыянальна-патрыятычных груповак краіны.

Сваю бясконцую любоў да роднай татарскай супольнасці не адрывае ад беларускай глебы вечная ў творчых памкненнях Разалія Александровіч. Выдадзены ёю сёлета сумесна з Таццянай Нескаромнай дапаможнік для педагогаў дашкольных устаноў «Зямля з блакітнымі вачыма» не мае аналагу ў такога жанру айчыннай педагагічнай літаратуры. Несумненна, напісаць такую каштоўную і для выхавацеляў дашкольных устаноў, і бацькоў дзяцей дашкольнага ўзросту кнігу, дапамагло, што адзін з яе аўтараў − Разалія Александровіч − пэўны час працавала ў адзіным у даперабудовачным Мінску беларускамоўным дзіцячым садзе, дзе з дапамогай вопытных, высокага грамадзянскага абавязку педагогаў зразумела цану нацыянальнага фактару ва ўзгадаванні дзяцей. Там, дзе сёння педагогі творча выкарыстоўваюць згаданы дапаможнік, дашкольнікі выхоўваюцца шчырымі патрыётамі роднай Бацькаўшчыны, любяць і паважаюць культуру і мову сваіх продкаў.

Ніколі не забудуся на ўрачысты вечар у памяшканні тэатра музычнай камедыі ў Мінску, што ладзіўся з нагоды 600-годдзя першых татарскіх пасяленняў на Беларусі. Зала была перапоўнена. Прысутнічалі і госці з блізкага і далёкага замежжа. Па завядзёнцы выступоўцы карысталіся толькі рускай мовай. І раптам парушылася навязаная нам чужынцамі моўная традыцыя. З вуснаў абаяльнай таркі Айшы Александровіч *(ураджэнкі Узды)* палілася мілагучная беларуская мова − прыродная, адзіна родная для гэтай зямлі. Сярод прысутных усталявалася магільная цішыня. З такой увагай, як выступленне Айшы Александровіч, мо не слухалі ні адну з прамоў высокіх афіцыйных асобаў ці кіраўнікоў татарскай абшчыны на Беларусі.

У поўнай адпаведнасці з традыцыямі С. Александровіча жылі і тварылі Якуб Якубоўскі і Адам Александровіч, якія колькі гадоў таму развіталіся з зямным жыццём. Першы ўвайшоў у нашу гісторыю як актыўны ўдзельнік сучаснага татарскага нацыянальна-культурнага адраджэння, як адзін з заснавальнікаў і першы рэдактар татарскага беларускамоўнага штоквартальніка «Байрам». Дзякуючы яго старанням гэтае перыядычнае выданне ўжо з першых нумароў стала вельмі папулярным як сярод татарскіх, так і беларускіх чытачоў.

Найвялікшая заслуга ўраджэнца і колішняга жыхара Узды Адама Александровіча перад Беларуссю – яго бясцэнны ўклад у нацыянальна-патрыятычнае выхаванне школьнай моладзі, што аўтар гэтых радкоў зведаў на сабе яшчэ ў далёкім і страшным 1941/1942 навучальным годзе. Шмат стаpанняў ім укладзена дзеля заснавання ў 1981 г. Уздзенскага гісторыка-краязнаўчага музея і разгортвання яго дзейнасці. Калі мне і многім маім прыхільнікам даводзілася весці змаганне з мясцовай і рэспубліканскай бюракратыяй за вяртанне зліквідаванай гістарычнай назвы майго роднага мястэчка Магільнае, ні ад кога я не меў такой падтрымкі, такіх карысных парадаў, як ад уздзенскага татарына Адама Александровіча.

З радасцю можна было б пералічваць і далей многіх татараў нашага краю, карані якіх сягаюць у далёкія часы Вітаўта, што проста не дае ім *(татарам)* уявіць сваё жыццё па-за межамі беларускіх культурна-моўных рэалій. Яшчэ не паспеўшы вярнуцца да сваёй роднай нацыянальнай мовы *(у што я цвёрда веру)*, якой карысталіся іх продкі, яны ва ўсіх жыццёвых сітуацыях ахвотна ўжываюць беларускую, нават прызнаючы яе за родную. Таму не можа не здзіўляць сказанае муфціем мусульман Беларусі Ісмаілам Александровічам у інтэрв'ю газеце «Звязда» *(12 кастрычніка г.г.)*: «Беларусь мы лічым другой сваёй радзімай, сваю мову мы згубілі і раней размаўлялі толькі на беларускай, зараз размаўляем на рускай і польскай... За ўсю гісторыю жыцця татар на гэтай зямлі не было ніводнага канфлікту паміж мусульманамі і карэнным насельніцтвам. І зараз няма ніякага процістаяння, нявырашаных пытанняў паміж намі». На першы погляд можа падацца парадоксам: канфліктаў, нявырашаных пытанняў з карэнным насельніцтвам Беларусі няма, а размаўляем на чужых для яго мовах – рускай і польскай *(я, аднак, так катэгарычна не выключаў бы беларускую мову з татарскага ўжытку ў нашыя дні)*. І за гэта, хачу сказаць, мы не маем нават самых нязначных падстаў абвінавачваць татараў. Калі ненажэрныя паланізацыя і русіфікацыя ледзь не дашчэнту адарвалі ад беларускай мовы яе карэннае насельніцтва, дык што ўжо казаць пра яе этнічныя супольнасці. У падобных выпадках яны, як правіла, хутчэй асімілююцца за карэнных жыхароў. Але тое, што сучасныя татары, як сцвярджае І. Александровіч, размаўляюць па-руску і па-польску, не можа не хваляваць нацыянальна-самасвядомых беларусаў, бо гэта адзіная на іх зямлі этнічная супольнасць, якая доўгія гады карысталася беларускай мовай. Нам і тут не шанцуе: ва ўсіх краінах нацыянальныя меншасці, забыўшыся на сваю родную мову, выкарыстоўваюць мову

